№ 13-14 (83)
7 красавіка
1997 г.

# НАША НІВА

беларуская газэта. Заснаваная ў 1906 г. у Вільні. Адноўленая таксама ў 1991 г. як штомесячнік. З 1 сакавіка 1996 г. выходзіць у Менску

Рэпартаж

## 10 СУТАК У "АДПАЧЫНКУ"

Менавіта столькі правёў стыль-рэдактар "НН" Паўлюк Канавальчык у менскім гарадзкім спэцыяльным прыёмніку-разьмеркавальніку, званым у народзе Прылукамі... Там цяпер можна сустрэць шмат удзельнікаў дэмакратычных маніфэстацыяў.

"Андрэй, прыехаў з Мар'інай Горкі. Сказаў бацькам, што выйшаў палаліць, выпадкова сустрэў старэйшага брата, які зьбіраўся ехаць на мітынг, паехаў за кампанію. Брат зараз у суседняй камэры.

Лёша, якому тыдзень таму споўнілася 18 гадоў. Выпадкова зь сябрам сустрэлі дэманстрантаў, далучыліся...

Дзядзя Шура, выйшаў купіць малака..."

На старонцы 3.

Літаратура

## Славамір Адамовіч

"... У суседняй кічы тарнаваўся малады зэк па мянушцы "Жаніх"... Сьвеціць яму гадкоў дзясятак — зарззаў госьця на ўласным вясельлі. І так бывае..."

Чарговая "порцыя" турэмных дзёньнікаў паэта Славаміра Адамовіча — на старонках 10-11.

## Лявон Вольскі

"Яны сустрэліся на эскалятары, у мэтро. Дакладней, на двух эскалятарах, якія рухаліся паралельна — адзін — угару, другі — уніз. Сяржук заўважыў Сяргея й пачаў актыўна жэстыкуляваць, каб прыцягнуць да сябе Сяргееву ўвагу. Гэта атрымалася, і цераз колькі хвілінаў Сяргей зь Сержуком стаялі ля выхаду з мэтро ды ўспаміналі мінулыя часы".

Драматычнае апавяданьне "Сяргей і Сяржук" — на старонках 12-13.

## Вітальд Гамбровіч

Афарызмы слыннага польскага пісьменьніка — на старонцы 14.

## Адам Глёбус

"Калі займаесься бізнэсам, разумееш: грошы, здабытыя вялікімі намаганьнямі, і грошы, прыдбаныя лёгка, роўныя ў цане, хоць з гэтым цяжка зьмірыцца".

"Занатоўкі эгаіста" гэтым разам — пра грошы. На старонцы 10.

## Карліс Скалбэ

"Маладыя не ведалі, што яны маладыя. Старыя не маглі дачакацца сьмерці..." Вызваленьне казачнай краіне прынёс юнак, сілу і сьмеласьць якому падарыў абуджаны ім волат.

"Казка пра волата" напісаная Карлісам Скалбэ пасьля вызваленьня роднай Латвіі ад Маскоўскай імпэрыі.

На старонцы 11.

Мастацтва

## Віктар Пятроў:

У сакавіку ў вядомай менскай галерэі "6-я лінія" адбылася сумесная выстава Віктара Пятрова і Тодара Копіцы. А ў рэдакцыі "НН" адбылася гутарка зь Віктарам Пятровым, які адказаў на пытаньні нашага карэспандэнта.

На старонцы 9.






## ТОРТ ДЛЯ "НАШАЙ НІВЫ"

26 сакавіка ў менскім кінатэатры "Зьмена", адбылася чарговая імпрэза "Нашай Нівы". Нагодаю стала дэманстрацыя фільма "Віленскі сшытак" у рамках кінапраграмы "Старонкі нашае гісторыі", якая праходзіць у гэтым кінатэатры.

Фільм "Віленскі сшытак" быў створаны на студыі "Летапіс" два гады таму рэжысэрам Вадзімам Сукманавым. Патрэба такой стужкі ў тыя гады ўспрымалася як надзённая, неабходная частка дыдактыкі, запаўненьня тых прабелаў у беларускай сьвядомасьці, што пакінулі па сабе апошнія 50 гадоў. Жывая віленская фактура, галасы, краявіды захапілі рэжысэра, які зрабіў усё, каб выявіць вельмі асабістыя пачуцьці... На жаль, у хуткім часе Вадзіма Сукманава ня стала... Як няма ўжо сёньня і адной з галоўных гераіняў фільма — пані Зоі Каўшанкі, віленскае дзяячкі, мэмуарысткі, старэйшае аўтаркі "НН".

Працяг на старонцы 2.

Анонс

## ГРАМАФОН

У наступным нумары "НН" — новыя вершы Ананіма, Аляксандра Антончыка, Тацяны Будовіч, Аляксея Ваяра, Язэпа Вісарыёнава, Яўгена Гучка, Анжалікі Дубасавай, Андрэя Захаранкі, Сяргея Кавалеўскага, Міколы Куліка, А.Мітрэнгі, Уладзімера Пашука, В.Псэўдоніма, Браніслава Пяткевіча, Дзяніса Хвастоўскага, Ганны Шарамецевай ды іншых.



Гісторыя

## МАГІЛЁЎШЧЫНА АНТЫСАВЕЦКАЯ

Апублікаваць шэраг дакумэнтаў, якія захоўваюцца ў Магілёўскіх архівах, я вырашыў, калі прачытаў кнігу Юркі Віцьбіча "Антыбальшавіцкія паўстаньні і партызанская барацьба на Беларусі" (Нью-Ёрк, 1996). У ёй аўтар узгадвае буйныя, дробныя і нават нязначныя выступы і адначасова ставіць пад сумнеў Чавускае паўстаньне і дзейнасьць атрада "Белая сьвітка". Свой сумнеў Віцьбіч грунтуе на адсутнасьці сьведкаў і ўспамінаў пра гэтыя падзеі. У кнізе Ю.Віцьбіча не згаданая дзейнасьць партызанскіх аддзелаў непасрэдна каля Магілёва...

Артыкул Ігара Пушкіна на старонцы 4.

Увага!

## Падпіска на кнігі новай выдавецкай сэрыі

*"Наша Ніва" распачынае выданьне новай сэрыі кніг Архіву Найноўшае Гісторыі. Гэтыя кнігі праз дакумэнты і ўспаміны будуць сьведчыць пра зараджэньне й пэрспэктывы разьвіцьця сучаснага беларускага грамадзтва.*

У канцы красавіка мы мяркуем выдаць кнігу ўспамінаў сяброў Саюзу Беларускіх Патрыётаў. СБП — падпольная маладзёжная арганізацыя, якая дзейнічала пасьля другой сусьветнай вайны ў Пастаўска-Глыбоцкім рэгіёне. Мэтай СБП была незалежнасьць Бацькаўшчыны. Прысягу прымалі перад нацыянальным сьцягам і гербам "Пагоня". У 1947-м Саюз быў разгромлены бальшавіцкімі карнымі органамі. На двух працэсах былі асуджаныя 44 сябры СБП. Чатыром была прысуджаная сьмяротная кара, астатнія пайшлі ў ГУЛАГ...

Сёньня мы абвяшчаем папярэднюю падпіску на новую кнігу. Падпісанты першымі (мяркуем, у пачатку траўня сёлета) атрымаюць кнігу, якая выйдзе абмежаваным накладам. Падпісанты заплоцяць крыху наперад, затое ў два разы меней, чым гэта будзе каштаваць у гандлі пасьля выхаду другой партыі кнігі. Акрамя гэтага, сваімі грашыма яны паспрыяюць самому выхаду кнігі.

*Каб папярэдне замовіць кнігу, неабходна 37.000 рублёў праз пошту пералічыць на наступны рахунак: БГФ "Наша Ніва" р/р 3015201930039 "Гарант" філія АКБ "Поіск" г. Менску, код 987.*

*У названую суму ўваходзіць кошт перасылкі кнігі ў межах Беларусі.*

*Не забудзьцеся на паштовай квітанцыі ў сэктары "Для пісьмовага паведамленьня" ўказаць "падпіска — СБП" і Ваш дакладны паштовы адрас.*

*Даведкі праз тэлефон у Менску (апроч выхадных): 239-78-49, Віталь Супрановіч.*

## СВАЯ ІМПЭРЫЯ

Севярын Квяткоўскі



Калі разважаеш пра тое, што прымушае вялікую частку нашых суайчыньнікаў з радасьцю ўспрымаць саюз з Расеяй, згадваеш адну цікавую, але амаль невырашальную гістарычную загадку: чаму ў 1380 годзе войска Полацкага князя Андрэя Альгердавіча, якое прыйшло на Кулікова поле, каб дапамагчы татарам, не ўступіла ў бой? І што было б, калі б маскоўцы ў той бітве пацярпелі паразу?..

Гэтыя пытаньні жыва дыскутуюцца сярод беларускіх гісторыкаў. Рэзоны "братэрскасьці" нашага войска ставяцца пад сумнеў: і да, і пасьля 1380 году ліцьвіны й маскоўцы сыстэматычна зьнішчалі адзін аднаго ў бязьлікіх войнах. Тады, што перашкодзіла войску, якое ў папярэднім дзесяцігодзьдзі тры разы выпраўлялася браць Маскву, ажыцьцявіць сваю мэту — разьбіць ворага? Няўжо палачане спужаліся, што сталіца Арды перасунецца ў Крэмаль?..

Што б ні рухала Андрэем Альгердавічам, калі ён аддаў загад дружыне заставацца на месцы, існуе вэрсія, што прынцыпова на сёньняшні геапалітычны стан ягонае рашэньне не паўплывала б. Хіба што зьмяніўся б адзін "нюанс" — цэнтар усходнеславянскай імпэрыі знаходзіўся б не ў Маскве, а ў Вільні.

* * *

Кажуць, што за дзьвесьце гадоў панаваньня ў Беларусі расейцы прышчапілі нашаму народу імпэрскую сьведамасьць. Няслушна — расейцы адно падфарбавалі беларусаў сваімі колерамі, гэтак, як кантрабандысты замалёўваюць зьверху каштоўную карціну. Насамрэч ідэя экспансіі ўласнага этнасу ніколі не зьнікала з нашае сьведамасьці. Новае беларускае грамадзтва пачало паўставаць на ідэі гістарычнае й культурнае пераемнасьці Вялікага Княства Літоўскага — вялікай шматнацыянальнай дзяржавы, дзе МЫ былі дамінантай. Мы з гонарам апэлюем да асобы Вітаўта Вялікага, які пакінуў нам у спадчыну няспраўджаную мару пра Беларусь "ад мора да мора".

Згадайце саматужныя мапы Беларусі, якія пачалі зьяўляцца ад пачатку руху Адраджэньня канца 80-х. На іх этнічныя і меркаваныя будучыя палітычныя межы краіны сягаюць пад Маскву, часам пад Піцер, а дзе-нідзе фігуруе былая Ўсходняя Прусія. Згадайце публічныя развагі пра тое, што, бадай, з часам давядзецца ахвяраваць незалежнасьцю братняй Летувы дзеля выхаду да мора. Яны ўспрымаліся цалкам натуральна: свая імпэрыя — што ў гэтым дзіўнага?

Імпэрыі ніколі не зьнікаюць. Фінансавыя, прамысловыя, культурныя — яны існуюць і разьвіваюцца, замяніўшы сабою былыя "турмы народаў" заходняе цывілізацыі. Само слова "імпэрыя" напоўнілася "шырокім сэнсам" і з канкрэтнага азначэньня палітычнага арганізму ператварылася ў мастацка-журналісцкі вобраз. Але гэты "шырокі сэнс" не падмяніў сутнасьць перша-

Працяг на старонцы 2.

# Апытальнік

*сьведкі найноўшае гісторыі Беларусі*

1. Ваша прозьвішча, імя, імя бацькі.
2. Год і месца нараджэньня, месца жыхарства.
3. Кароткія біяграфічныя зьвесткі (нацыянальнасьць, веравызнаньне, адукацыя, прафэсія, месца працы, іншае).

Зьвесткі, якія Вы даеце, могуць быць апублікаваныя толькі з Вашае згоды. Ці даеце Вы згоду на публікацыю ўспамінаў?

*Успаміны*

4. Да 1921 году:

Ці памятаеце Вы, альбо ведаеце з расповедаў блізкіх, эпізоды першай сусьветнай вайны, грамадзянскай вайны, усталяваньня БНР, савецка-польскай вайны?

5. Да 1941 году

а) для БССР: Ці памятаеце Вы, альбо ведаеце з расповедаў іншых людзей канкрэтныя эпізоды:
— стварэньня Саветаў, "раскулачваньня" і калектывізацыі;
— змаганьня з рэлігіяй;
— апазыцыйнага да ўладаў руху, лёсу палітычных і культурных дзеячоў Беларусі, масавых рэпрэсіяў;
— Вашага прыватнага жыцьця й жыцьця Вашых блізкіх (маёмасны стан, адукацыя, праца, паездкі, карыстаньне поштаю).

б) для Заходняй Беларусі: Што Вы ведаеце самі, альбо з расповедаў блізкіх пра канкрэтныя эпізоды:
— усталяваньня польскай (літоўскай, латыскай) адміністрацыі;
— культурнай і рэлігійнай палітыкі новых уладаў;
— беларускага вызваленчага, культурніцкага, эканамічнага руху;
— Вашага прыватнага жыцьця й жыцьця Вашых блізкіх (маёмасны стан, адукацыя, праца, паездкі, карыстаньне поштаю...).

6. Што Вы ведаеце пра вайну 1939 году? Што памятаеце з часоў далучэньня Заходняй Беларусі да БССР (верасень 1939 — чэрвень 1941) —"першыя Саветы": як ставілася насельніцтва да Чырвонае арміі; калектывізацыя, рэпрэсіі, адукацыйная палітыка...

7. 1941-1944 г. Другая сусьветная вайна.
— як у Вашай мясцовасьці сустракалі нямецкія войскі, як адбывалася ўсталяваньне нямецкай акупацыйнай адміністрацыі?
— што Вы помніце або чулі ад іншых пра карныя акцыі нямецкіх аддзелаў; савецкіх партызанаў; расейскіх, казацкіх, украінскіх, літоўскіх і інш. вайсковых і паліцыйных адзінак; беларускай паліцыі;
— партызанская дзейнасьць у Вашым рэгіёне: беларуская партызанка, Армія Краёва, камуністычная партызанка, бандытызм.
— дзейнасьць нацыянальных арганізацыяў, створаных за часамі акупацыі: БНС, БКА, СБМ...
— тагачаснае функцыяваньне грамадзтва й праявы нацыянальнага жыцьця (школьніцтва, друк, культурнае й рэлігійнае жыцьцё, гаспадарчае становішча...).

8. 1945-1956 г. Партызанская і падпольная барацьба супраць савецкіх уладаў; рэпрэсіі супраць нацыянальных арганізацыяў, калектывізацыя ў Заходняй Беларусі; становішча нацыянальнай школы, праявы нацыянальнага жыцьця.

Да ўсіх папярэдніх пэрыядаў:
— каго Вы ведаеце з вашай мясцовасьці, хто быў рэпрэсаваны ў камуністычны час?
— дзе ў вашай мясцовасьці разьмяшчаліся савецкія, польскія, нямецкія канцэнтрацыйныя лягеры й турмы? Ці ведаеце Вы месцы расстрэлаў або пахаваньні ахвяраў таталітарных рэжымаў?
— ці ведаеце Вы пахаваньні (могільнікі) з дарэвалюцыйных часоў, першай, другой сусьветных і іншых войнаў, якія адбываліся на тэрыторыі Беларусі? Ці ведаеце магілы беларускіх нацыянальных (патрыятычных) партызанаў і паўстанцаў (слуцкіх, зеленадубаўскіх, партызанаў другой паловы саракавых гадоў і інш.)?

9. 1956-1965 г. Праявы беларушчыны і апазыцыі да ўладаў, праблемы разьвіцьця нацыянальнай культуры, закрыцьцё беларускіх школ.

10. 1966-1980 г. Новыя ўмовы разьвіцьця беларускага нацыянальнага руху (антысавецкая апазыцыя, самвыдавецтва), барацьба за захаваньне нацыянальнай культуры (гістарычная памяць, архітэктурныя помнікі...). Формы пратэстаў супраць акупацыі Чэхаславакіі ў 1968 годзе. Праблемы абароны правоў чалавека, выкарыстаньне ўладамі карнай псыхіятрыі. Узьнікненьне неафіцыйных нацыянальных арганізацыяў і асяродкаў (акадэмічных, студэнцкіх і г.д.), іх дзейнасьць.

Калі ласка, зьвяртайце ўвагу на дакладнасьць зьвестак (даты, месцы, акалічнасьці), не дапускайце пераробкі і скажэньня фактаў, як мага больш давайце прозьвішчаў і імёнаў канкрэтных асобаў, зьвестак пра іх учынкі, дзеяньні і паводзіны. Калі ня памятаеце нешта дакладна — абавязкова пазначце гэта, старайцеся, каб Вашы развагі, сумневы, эмоцыі не зьліваліся (не ўплывалі) на выкладаньне гістарычных падзеяў, а таксама на ацэнку дзеяньняў і паводзін іншых людзей.

*Апытальнік складзены Радаю грамадзкага Архіву Найноўшае Гісторыі.*

# НЯВЫМУШАНЫ ЭКСПЭРЫМЭНТ

Калі перайсьці цалкам на палітычны дыскурс, дык можа падацца, што пачатак праекту Апытаньня сьведкаў найноўшае беларускае гісторыі непасрэдна зьвязаны з ускладненьнем функцыяваньня ў Беларусі гуманістыкі, і найперш — гістарыяграфіі.

Усё вастрэй адчуваецца цэнзура ў энцыкляпэдычных выданьнях — з тамоў Гістарычнай энцыкляпэдыі, паводле ідэалягічных меркаваньняў, вымаюцца цэлыя артыкулы, а падрыхтаваная да друку "Ілюстраваная гісторыя Беларусі" пэрыяду з 1918 году — цалкам скамунізаваная. Адпаведная палітыка праводзіцца і ў іншых дзяржаўных выдавецтвах, у адным зь якіх вось ужо некалькі гадоў ня можа выйсьці кніга пра людзей, якія рэалізоўвалі палітыку масавых рэпрэсіяў. Зусім закрыліся архівы КГБ, зь якіх не даюць зьвестак нават дзяржаўнаму выдавецтву "Беларуская энцыклапэдыя" — пра даты гібелі пісьменьнікаў. Гэтым самым зьмяншаюцца магчымасьці традыцыйных каналаў атрыманьня гістарычнай інфармацыі для шырокага спажыўца — бо энцыкляпэдыям і кнігам зноў нельга цалкам давяраць. Для прафэсійнага ж гісторыка праз закрыцьцё архіваў звужаецца база крыніцаў. Больш за тое — ад гісторыкаў пачынаюць патрабаваць стварэньня "новага" вобразу савецкай гісторыі — каб абгрунтаваць сёньняшнія чыста палітычныя карпаратыўныя крокі.

У гэтых умовах прыцягненьне велізарнага масіву гістарычнай інфармацыі — успамінаў сьведкаў найноўшае гісторыі, апрацоўка й сыстэматызацыя, публікацыя гэтых успамінаў можа стацца перашкодай на шляху сьведамай трансфармацыі рэжымам гістарычных вобразаў. Такім чынам, апытальніцкі праект можна было б назваць вымушаным гістарыяграфічным экспэрымэнтам у рэаліях цяперашняе Беларусі.

Але ёсьць больш глыбінныя мэтадалягічныя падставы для маштабнасьці праекту. Гэта — прынцып самавызначэньня, які выкарыстоўваецца ў масавых апытаньнях у разьвітых грамадзтвах. Самавызначэньне — базавы прынцып такой формы апытаньня, у тым ліку й перапісаў насельніцтва — як самарэгістрацыя. Пры самарэгістрацыі адказы запісвае не рэгістратар, а сам рэспандэнт. Рэгулярна такая форма апытаньня стала сыстэмна ўжывацца з другой паловы XIX ст. у Заходняй Эўропе. Самарэгістрацыя патрабуе дастаткова высокага цывілізацыйнага ўзроўню апытваных і выкарыстоўваецца часам толькі для гарадзкога насельніцтва. Рэспандэнту даводзіцца самастойна прымаць рашэньні й рабіць адказы, абапіраючыся зьнешне толькі на сьціслы тэкст у апытальніку.

Прыватныя, суб'ектыўныя гістарычныя ўспаміны, як масавы матэрыял, магчымыя толькі ў дастаткова самаарганізаваных супольнасьцях, бо ў таталітарных грамадзтвах практычна ўсе ўспаміны падобныя міжсобку — так нівэлюе сьвядомасьць людзей панаваньне адной ідэалёгіі.

У беларускім грамадзтве ўжо зьявіліся свае тэрыторыі адказнасьці, і самаарганізацыя робіцца ўмоваю выжываньня гэтага грамадзтва. Адпаведна для такога грамадзтва фармулюецца вартасная функцыя гісторыі — сацыяльна-гістарычная памяць. Менавіта ў суб'ектыўнай памяці ашчаджаны калясальны вартасны патэнцыял для нацыянальнай гістарыяграфіі.

Ажыцьцяўленьне праекту масавага гістарычнага апытаньня робіцца магчымым пры наяўнасьці незалежнага беларускага грамадзтва. Можа быць, ня ўсе функцыі грамадзтва сёньня рэалізуюцца, але сацыяльна-вартасныя патрабаваньні ўжо сфармуляваныя. Вось чаму Архіў Найноўшае Гісторыі й "Наша Ніва" згодныя распачаць сваё апытаньне.

**Алег Дзярновіч**

*Просьба свае нататкі дасылаць на адрас: 220123 Менск, а/с 71, Архіў.*



*Апублікаваць шэраг дакумэнтаў, якія захоўваюцца ў Магілёўскіх архівах, я вырашыў, калі прачытаў кнігу Юркі Віцьбіча "Антыбальшавіцкія паўстаньні і партызанская барацьба на Беларусі" (Нью-Ёрк, 1996). У ёй аўтар узгадвае буйныя, дробныя і нават нязначныя выступы і адначасова ставіць пад сумнеў Чавускае паўстаньне і дзейнасьць атрада "Белая сьвітка". Свой сумнеў Віцьбіч грунтуе на адсутнасьці сьведкаў і ўспамінаў пра гэтыя падзеі. У кнізе Ю.Віцьбіча не згаданая дзейнасьць партызанскіх аддзелаў непасрэдна каля Магілёва...*

Працуючы ў архіве, я знайшоў дакумэнты пра Прапойскае паўстаньне (публікацыя ў "НН" №37 за 1996 г.) і контрарэвалюцыйную дзейнасьць узброеных атрадаў на тэрыторыі Магілёўскага раёну да 1935 году. Апошнія прапаную Вашай увазе сёньня.

Дакумэнты пададзеныя ў перакладзе з расейскае мовы, захаваны стыль ды іншыя адметнасьці. Напрыклад, у першым дакумэнце пры пераліку месцаў дзейнасьці атрадаў у Мастоцкім, Машанацкім сельсаветах пазначана, што гэтыя сельсаветы знаходзяцца на правабярэжжы Дняпра. Гэта памылка. Яны знаходзяцца на левым беразе.

Дакумэнты вельмі аб'ёмістыя, таму пры публікацыі пакінутыя толькі агульныя зьвесткі пра раён і факты, якія тычацца антыбальшавіцкай дзейнасьці. Гэтая дзейнасьць у дакумэнтах храналягічна падзяляецца на два пэрыяды: 1919-28 гады і (час напісаньня дакумэнтаў) 1935 год. Дарэчы, у дакумэнтах няма ўспамінаў пра крымінальныя злачынствы "бандытаў", толькі адзначаецца, што тыя забівалі актывістаў, сельсаветчыкаў і палілі калгасную маёмасьць.

Можна прывесьці пабытовы факт з жыцьця магілёўскага гарадзкога раёну Лупалава, пра якое сказана ў канцы дакумэнта за 1934 год: "сярод вучняў 15 школы на Лупалаве праяўлена кіданьне венікаў, ануч, страляньне з рагатак у партрэты Леніна і Калініна, выпадкі антысэмітызму, выступленьні супраць піянэрызацыі з выкрыкам "няхай падохнуць усе піянэры" (ДАГАМВ, Ф.6580, в.1, спр.486, а.2). Дзеці звычайна кажуць тое, што чуюць ад бацькоў.

Ня гледзячы на жорсткае вынішчэньне ў 20-я гады, супраціў працягваўся і ў 30-я. Пра гэта сьведчаць вытрымкі з дакумэнтаў, якія тычацца Бабруйскага павету. Пакінута да друку галоўнае, прапушчаны агульныя лёзунгі, заклікі і нязначная інфармацыя.

Колькі словаў пра дакумэнт за 1921 год — "Даклад аб дзейнасьці выязной сэсіі рэўваентрыбунала ў пэрыяд ліпеня 1921 г." У архіве захавалася копія. Але найбольш цікавы адзін абзац, які прыведзены цалкам. Тут яшчэ не прастаўленыя лічбы — колькі паступіла справаў, колькі разгледжана і г.д., а колькасьць растраляных — пазначаная, прычым не самапіскай, а надрукаваная. Можна меркаваць пра давядзеньне неабходнай лічбы расстраляных "зьверху", загадзя, да выезду на месцы дзейнасьці паўстанцаў.

**Ігар Пушкін**

*Дзяржаўны архіў грамадзкіх аб'яднаньняў Магілёўскай вобласьці*

Фонд №6573 "Бабруйскі Павятовы камітэт КПБ". Вопіс 1, справа №55 "Цыркуляры ЦК РКП(б) і ЦБ КП(б)Б, сакрэтная перапіска па барацьбе з бандытызмам на тэрыторыі Беларусі" (1921 год).

### З ДАКЛАДУ АСЬВЕДАМІЦЕЛЯ

У Бабрускім павеце чуткі, што згодна з пунктамі Рыскае дамовы бальшавікі павінны пакінуць Беларусь. Бандытызм, які разьвіваецца, лічаць Дабраахвотнай арміяй, якая дапамагае пазбавіцца ад бальшавікоў. Гэтаму верыць частка насельніцтва...

### З САКРЭТНАЙ ДЫРЭКТЫВЫ САЎНАРКАМА БЕЛАРУСІ АД 28 ТРАЎНЯ 1921 Г. ЗА №56

Бандытызм на тэрыторыі Беларусі даходзіць да скрайніх межаў, які падтрымліваецца рэальна ўсімі сродкамі, а таксама белымі афіцэрамі з арміі бандыта Балаховіча і атрымлівае палітычную афарбоўку ад эсэра Савінкава...

Для выкараненьня шэраг сродкаў:

1. правесьці шырокую агітацыю аб

Вайна пасьля вайны... Партызанка, якая доўжылася дзесяцігодзьдзі... І ўсё гэта — Беларусь 1940-50 гадоў — суцэльная "белая пляма" нашай гісторыі.

"Ты хочаш даведацца пра "Чорную кошку"?" — былы вясковы настаўнік насьцярожана глядзеў на мяне, нібы вывучаючы. Ён, відавочна, вагаўся, але палічыў магчымым сказаць яшчэ некалькі словаў. "Пасьля вайны зброі хапала, але было галодна. Вось хлопцы і ўзрывалі цягнікі й рабавалі іх. Асабліва актыўна яны дзейнічалі ў 1945-46 г. І ў Слоніме была "Чорная кошка", але яе да 1948 году разгромілі... Асабліва шмат партызанаў было на поўначы раёну, дзе іх сяляне падтрымлівалі цэлымі вёскамі. Таму табе яны нічога ня скажуць. Ад вэтэранаў МГБ таксама мала чаго даведасься — хітрыя яны. А ад былых міліцыянтаў — можаш. Дарэчы, шмат бункераў "лясных братоў" захавалася..."

Я прыслухаўся да парадаў настаўніка й пачаў шукаць былых слонімскіх міліцыянтаў. Неўзабаве выйшаў на аднаго зь іх. Уладзімер Дунай зусім ня быў падобны на "пераможца нацыяналістычных бандаў". Страх быў у ягоных вачах і, здаецца, гэты страх не пакідаў яго ўсе пасьляваенныя дзесяцігодзьдзі. "Як я Вам раскажу? Вы ж разумееце, што я іх забіваў, а ў іх сваякі жывуць! Ды ня ўсіх мы тады вылавілі..." І ўсё ж ён распавёў мне некалькі эпізодаў з тых пасьляваенных часоў.

Яшчэ адну "пераможцу", вэтэранку КГБ, я здолеў "разгаварыць", скарыстаўшы свой шмат разоў выпрабаваны мэтад. "У нас пасьля вайны была тая ж Чачэнія, — расказвае яна. — Тут пазаставаліся былыя самаахоўцы, якія яшчэ доўга дзейнічалі... Дзесьці на пачатку 50-х гадоў у Слоніме й Жыровічах была раскрытая падпольная арганізацыя (пасьлядоўнікі "Чайкі" 1945-47 гадоў, магчыма, належалі да падпольля Беларускай Незалежніцкай Партыі — **С.Ё.**). І вось гэтыя старэйшыя падбухторвалі фэзэвушнікаў супраць савецкай улады. Я неяк ішла па вуліцы з савецкім афіцэрам, як да нас падбег хлопчык з жалезным прутом і ланцугом: "Што, курва, з рускімі ідзеш?!" — крыкнуў ён і пачаў нас малаціць... Ён яшчэ дзіця, што зь ім зробіш, ня будзеш жа страляць!.. А пасьля быў справакаваны напад фэзэвушнікаў на міліцыю — каменьнем яны павыбівалі ўсе шыбы. Толькі войскі, якія пад'ехалі на пяці машынах, здолелі іх разагнаць... Калі пачалі разьбірацца, выйшлі на тое падпольле й іх арыштавалі..."

Яна доўга распавядала мне, як "бандыты" абкружалі яе хату, і як удалося разам з бацькам ад іх адстраляцца. Успамінала свайго пазьверску забітага брата-міліцыянта. Але ні слова не сказала пра зьверствы дзяржбясьпекі, якія, у большасьці выпадкаў, і сталіся прычынаю акцыяў помсты з боку антыкамуністаў. Мне здалося, яна разумее, што была калябаранткай акупацыйнага рэжыму, але пры гэтым будзе фанатычна бараніць ідэалы савецкага мінулага да апошняга. Яна, як і тысячы іншых вэтэранаў КГБ, баіцца прызнаць сваю паразу й зь нянавісьцю кажа пра "нашчадкаў паліцаяў і бандытаў", якія "зноў узьнімаюць галовы". Многія з такіх хацелі б "тряхнуть стариной" і "навести порядок", але й мы ня супраць успомніць партызанскія сьцежкі сваіх дзядоў...

Васіль Струпавец добра дасьведчаны ў справе пасьляваеннае партызанкі й ня раз сутыкаўся зь "ляснымі братамі". Зь ягоных шматгадзінавых аповедаў цяжка вылучыць нейкі кавалак, але паспрабую: "Была пасьля вайны палітычная партызанка, — успамінае В.Струпавец. — За свабоду Беларусі змагаліся хлопцы. Хацелі

# Магілёўшчына антысавецкая

шкодзе, якую наносіць бандытызм і правесьці агітацыю супраць антысэмітызму...

3. зьвярнуць увагу на адпускных чырвонаармейцаў, забясьпечыць іх працай, інакш яны... зьяўляюцца часам верным рэзэрвам бандыцкіх шаек...

5. улічваючы пасыўнасьць вал. і сельсаветаў у справе барацьбы з бандытызмам (часьцяком падтрыманьне апошняга)... зьмяніць склад няўстойлівых... стварыць валрэўкамы паводле ўзгадненьня з НКВД...

6. дзеля ліквідацыі бандытызму і падтрымкі бандытаў неабходна прымяніць мэтад канфіскацыі маёмасьці бандытаў і іх сем'яў...

9. Перадрэўтрыбуналу Беларусі стварыць выязныя сэсіі Рэўтрыбуналаў у Мазырскім, Бабруйскім, Ігуменскім, Слуцкім паветах... выезды на месца з атрадамі і наладжваць суд, абстаўляючы працэс гэтага ўрачыста й публічна, уцягваючы... навакольнае насельніцтва і выносіць прысуды жорсткія, аж да расстрэлу...

10. абвясьціць, што бандыту пагражае расстрэл, а сяло альбо вёску, якія падтрымліваюць бандытызм, Савецкая ўлада будзе вымушана спальваць, як гнёзды, дзе знаходзіць сабе прытулак гэты бандытызм, у імя захаваньня Чырвонай рэвалюцыйнай сялянскай вёскі...

*Нам. старшыні саўнаркаму па барацьбе з бандытызмам, наркам вайсковы і наркамунутрсправ І.Адамовіч*

*Сакратар саўнаркаму Клішэўскі.*

### ТЭЛЕГРАМА

за № 23 ад 6.06.21 г. Старшыні Рэўтрыбуналу 8 дывізіі і укампарт Бабруйскага павету з штабдзіву 8-га. Бабруйск, для выкананьня Ваенсаветам ад 27 траўня 1921 г. Тэрмінова сакрэтна.

На падставе сваёй пастановы ад 19 траўня 1921 ваенсавет прапануе сканструяваць выязную сэсію рэвалюцыйнага трыбуналу ў складзе: 1. старшыня (прадстаўнік ад РВТ 8-й дывізіі), 2 члены (ад дывізіі і укаму) і тэрмінова выехаць на месца апэрацыі атрада т. Байкалава ў м. Глуск.

Усе справы па абвінавачваньню ў бандытызьме павінны быць без усякай затрымкі заслуханыя на месцах і рашэньні трыбуналу несьці характар, які бязьлітасна карае ўсіх віноўных ня толькі ў яго прамой праяве, але і ў садзеяньні так альбо інакш яму.

*Старшыня ваенсавету Мардвінаў.*

### ЗЬ ЛІСТА

ад 15.07.21 г. у Укампарт

(копія загаду Рэўваенсавету г. Менску №04 ад 11.07.21 г.)

1. на тэрыторыі Беларусі існуе ваеннае становішча...

3... усе грамадзяне за ўкрываньне бандытаў, яўную або таемную дапамогу панясуць кару аж да расстрэлу. Маёмасьць будзе сканфіскаваная, а ўся сям'я будзе выселеная на прымусовыя працы за межы Савецкай Беларусі...

5. сем'і бандытаў, якія не зьявіліся, арыштоўваць, маёмасьць сканфіскоўваць і дзяліць паміж сумленнымі і вернымі Савецкай уладзе сялянамі...

6... бандыты, ведайце, што вашыя імёны і месцажыхарства вашых сем'яў ваеннаму камандаваньню і органам ЧК вядомыя...

... загад надрукаваць на расейскай, беларускай, польскай, габрайскай мовах.

*Падпісалі Убарэвіч, Адамовіч, Ольскі, Вянцоў.*

### З САКРЭТНАЙ КОПІІ

Сакратару Укампарта ад старшыні Выязсэсіі РВТ 8-й дывізіі Гамілоўскага Піліпа Фёдаравіча.

Даклад пра дзейнасьць выязсэсіі ў пэрыяд ліпеня 1921 г.

... ахоплены раён Касарычы, Балашэвічы, Казловічы, Глуш-Гарбацэвічы, Глуск... Ст. Дарогі, м. Уручча... такім чынам праца, хоць і мела шмат справаў, не магла б выявіцца ў больших лічбавых зьвестак. За ўвесь гэты пэрыяд (3-30.07) паступіла справаў "__", разгеджана справаў "__", расстраляна 15, прысуджана да пазбаўленьня волі "__", умоўна "__", выселена "__", перададзена "__", спынена "__"...

*Подпіс.*

*Дзяржаўны архіў грамадзкіх аб'яднаньняў магілёўскай вобласьці*

Фонд №6580 "Магілёўскі РК КПБ", вопіс №1, справа №626 "Справаздача аб працы райкаму за 1935 г." аа. 1-15.

Зусім сакрэтна.

### ПАЛІТЫКА-ЭКАНАМІЧНЫ АГЛЯД МАГІЛЁЎСКАГА РАЁНА ПА СТАНУ НА 1935 ГОД.

Адміністратыўны падзел раёна.

Тэрыторыя 1822 кв. км. 26 сельсаветаў і адзін гарсавет. На правым баку р. Дняпра — 18 сельсаветаў, на левым — 8 сельсаветаў. Агульнае насельніцтва 151 590 чалавек, сельскае — 83 329 чалавек...

Нацыянальны склад.

Беларусаў — 118 759 чалавек (75,05%), расейцаў — 9147 (5,75%), габраяў — 24 225 (15,37%), палякаў — 3617 (2,32%), латышоў — 566 (0,33%), іншых — 1938 (1,13%). Два нацыянальныя сельсаветы: Селецкі нацыянальны габрайскі сельсавет з насельніцтвам 862 чалавекі, Хрыпелеўскі нацыянальны польскі сельсавет з насельніцтвам 805 чалавек...

Па горадзе маецца беларускіх школ — 15, габрайскіх — 3, расейскіх — 2, польскіх — 1. Пры Палітпрасьветтэхнікуме маюцца польскі і габрайскія сэктары. Па сельскай мясцовасьці: беларускіх школ — 124, расейскіх — 1, польска-беларускіх —2, габрайскіх — 1, латыскіх — 1...

Контрарэвалюцыйныя фактары.

... за 1929 год сярод польскага насельніцтва ліквідавана 5 груповак: у ваколіцы Паплаўшчына Досавіцкага с/с адна групоўка вяла падрыхтоўку да паўстаньня... Банда Шаўчэнкі, якая забівала савецкіх работнікаў і габраяў, банда карысталася падтрымкай значнай часткі Бракаўскага і Гаранскага с/с і была ліквідаваная толькі ў 1927 г. У с/с паўночна-ўсходняй часткі раёна, па правабярэжжы Дняпра ў Мастоцкім, Машанацкім і ў памежных с/с Шклоўскага, Горацкага і Чавускага раёнаў апэравалі банды Пруднікава, Новікава, Казановіча, Рыжыкава-Бястужава, Ступакова, Агароднікава (ліквідаваная ў 1928 г.). Для бандаў былі характэрныя забойствы актывістаў і членаў с/с, падпальваньне калгаснай маёмасьці...

На грунце рашучага наступу на кулацтва ў 1929 г. у пэрыяд разгортваньня калектывізацыі, было 6 масавых выступаў (Амхоўскі, Шчажэрскі, Гарадзішчанскі, Бракаўскі с/с). Выступоўцы былі з зброяй (Амхоўскі с/с)...

Сярод латыскага насельніцтва в. Латрошча Шчажэрскага с/с мелася апостальска-каталіцкая сэкта, якая разьвівала нацыяналістычныя і эміграцыйныя тэндэнцыі, групоўка трымала сувязь з Латвіяй і атрымлівала адтуль грошы, была зьліквідаваная ў 1929 г...

З раёну выселена за год 223 кулацкія сям'і...

На сёньняшні дзень зь сельсаветаў ахопленыя кулацкімі і контрарэвалюцыйнымі фактарамі: Гаранскі с/с — рэшткі банды Шаўчэнкі, да гэтай банды асабліва належала в. Забалацьце...

Пашкоўскі сельсавет часткова ахоплены былой бандай Шаўчэнкі. У 1929/1930 гг. пад час раскулачваньня аказаны супраціў...

Мохаўскі с/с: у 1919 г. з мэтаю ўхіліцца ад прызыву ў армію была арганізаваная сэкта эвангелістаў у 20 чалавек. У 1930 годзе частка разьбеглася, а частка засталася...

Мастоцкі с/с: на яго тэрыторыі апэравала банда Агароднікава (актыўна дзейнічала ў 1927 г.)...

Таранаўскі с/с — у 1919 г. выступ супраць харчразьвёрсткі. У 1924-25 гг. на тэрыторыі сельсавету апэравала банда Балаханава, якая складалася з жыхароў вёсак Таранава і Любуж...

Рэлігійнасьць.

Рэлігійны фанатызм сярод насельніцтва пачаў вычэрпвацца. З былых 23 цэркваў сельскай мясцовасьці — дзейнічае 6, у якіх малебстваваньні праводзяцца нерэгулярна. Усе былыя 5 сынагог — закрытыя. З былых у Магілёве 11 цэркваў — дзейнічаюць толькі 2, з 9 сынагог — 1. Па горадзе схільнасьць да рэлігіі адчуваецца сярод жыхароў Лупалава...

*Сакратар Магілёўскага РК КП(б)Б Рэвінскі.*

Дакумэнты да друку падрыхтаваў

**Ігар Пушкін**

**СХЕМА**

Магілёўскі раён у 1935 годзе




○ цэнтры сельсаветаў

выступы супраць савецкай улады 1919-1928 г.

выступы супраць савецкай улады да 1935 г.

*Мапу склаў І.Пушкін*

# ВАЙНА ПАСЬЛЯ ВАЙНЫ

## *Партызанскімі сьцежкамі — 6*

людзі свабоды й цяпер хочуць. Хацелі, каб іга, тэрору гэтага не было... Велькая арганізацыя была, па ўсёй Беларусі. Ці быў у іх адзін камандзір, я ня ведаю. Але ж некаму яны падначальваліся.

Вайны з Амэрыкай абавязкова чакалі. Усе напагатове былі, усе людзі. Усе літаральна. Толькі потым і хаваліся, чакалі моманту, каб паўстаць супраць гэтай банды савецкай. Тады пайшлі б і вёскі, усе пайшлі і зброя гатовая была. А так цягнулася, цягнулася. Гадоў па чатыры людзі па лясах хадзілі, а іх амністыявалі. Дык што рабіць? І вайны няма, і нічога не дачакаліся. Павыходзілі тыя, каго не забілі, павыходзілі..."

Пра доўгае чаканьне вайны з Амэрыкай я чуў ад дзясяткаў старых сялянаў. Яе чакалі ўсе, нават многія з тых, што павінны былі змагацца з "бандытызмам". Адзін былы савецкі партызанскі камандзір, вядомы на Слонімшчыне сваімі рабаўніцтвамі пад час нямецкае акупацыі, пасьля вайны трымаў шчыльны кантакт зь "ляснымі братамі". Каб захаваць сваю бясьпеку на выпадак зьмены ўлады, ён падтрымоўваў партызанаў золатам (нарабаваным у жыдоў у вайну), дапамагаў ім легалізавацца.

Вусная партызанская прапаганда была даволі эфэктыўная. Уладзімер Жыгар успамінае: "У нашай мясцовасьці дзейнічала група з 10 чалавек... Яны вялі прапаганду сярод людзей. Заклікалі, каб людзі не ўступалі ў калгасы, бо хутка будзе вайна з Амэрыкай. І многія іх слухалі. Некаторыя нават думалі, што калі яны ня пойдуць у калгас, дык новая ўлада аддзячыць ім за гэта — дадуць нейкую ўзнагароду... Калгас у нас стварыўся толькі пасьля таго, як групу гэтую разьбілі".

Лічыць, што тысячы людзей прымусіла пайсьці ў лес толькі нянавісьць да бальшавіцкага панаваньня, было б памылкаю. У кожнага "ляснога брата" была нейкая свая прычына, якая змушала яго пераходзіць на нелегальнае становішча. Ідэйных антыкамуністаў было мала, але іх колькасьць хутка павялічвалася. "Палітасьвету" нелегалы атрымоўвалі ў лесе, слухаючы ангельскае радыё ды чытаючы партызанскую прэсу.



Неяк, працуючы ў архіве, я натрапіў на цікавы дакумэнт — пратакол сакрэтнага паседжаньня бюро ЦК КП(б)Б ад 2 сьнежня 1947 году. У пастанове адзначалася: "... органы МУС, пракурорскія і судовыя работнікі ў заходніх абласьцях рэспублікі ў шэрагу выпадкаў ухіляюцца ад аказаньня канкрэтнай дапамогі органам МГБ па ліквідацыі нацыяналістычнага падпольля і яго ўзброеных бандаў. Недастаткова праводзяць працу па барацьбе з рабаўніцкімі бандамі і іншымі крымінальна-злачыннымі элемэнтамі, падрыўная праца якіх за апошні час асабліва ўзмацнілася, у шэрагу выпадкаў праводзіцца разам з нацыяналістычнымі элемэнтамі і перарастае ў палітычныя акты" (НА РБ, ф.4, воп.61, спр.479, арк.4).

Сапраўды, пасьля вайны дзейнічалі ня толькі "палітычныя" партызаны, але было шмат і крымінальных бандаў (толькі за 1946 год у БССР было ліквідавана 40 такіх груп, а 2212 іх удзельнікаў арыштавана). І паступова, вольна ці пад ціскам абставін, дзейнасьць некаторых пачала набываць палітычны характар. Напрыклад, на Слонімшчыне дзейнічала група Пятра Бухарэўскага, былога начальніка штаба савецкага партызанскага атрада імя Панамарэнкі, якая займалася рабаўніцтвам сялянаў ды дзяржаўных крамаў. Гэтыя людзі спачатку хаваліся ад фронту ды ня мелі ніякай ідэалёгіі. Аднак, пачуўшы легенду пра Амэрыку ды чаканую вайну, яны вырашылі здабыць на будучыню прыхільнасьць "новых уладаў" і пачалі рабіць напады на савецкія ўстановы, паліць трактары. Зразумела, што рабаўніцтваў яны не спынялі...

У былога савецкага партызана, а пасьля ўчастковага міліцыянта Дзэмідовіча была прыгожая жонка. І вось яна загуляла зь нейкім савецкім афіцэрам, капітанам ці маёрам. Калі Дзэмідовіч даведаўся пра гэта — застрэліў каханка жонкі й пайшоў у лес... На нелегальным становішчы ён быў да 1950 году. Аднойчы на нейкім хутары яго засёк сякераю агент МГБ... Калі прыехала міліцыя, труп зьнік... Пайшлі за крывавым сьледам і адшукалі яшчэ жывога Дзэмідовіча ў жыце. Яго прывезьлі да сельсавету й там дабілі, каменем па грудзях... Вось такая трагічная гісторыя аднаго са слонімскіх "лясных братоў". Другі ведамы партызан — атаман Лабовіч, — загінуў падобнай сьмерцю.

Сьцяпан Лабовіч быў актывістам КПЗБ. У вайну некалькі тыдняў служыў у паліцыі, пра што шчыра й распавёў у ваенкамаце ў 1944 годзе, калі ішла мабілізацыя ў Чырвоную армію. Яго папрасілі застацца й пачакаць, а астатніх пагналі на вакзал. Зразумеўшы, што яму пагражае, Лабовіч уцёк у лес, арганізаваў партызанскі атрад. Дзесьці ў 1951 годзе яго атруціў агент МГБ Куляшэвіч, на хутар якога Лабовіч зайшоў пераначаваць... Неўзабаве пасьля таго зь лесу прыйшлі людзі й моцна зьбілі Куляшэвіча. Празь месяц ён сканаў.

Дзяржбясьпека шырока выкарыстоўвала ў барацьбе з антысавецкай партызанкай сваю агентуру. Але акцыі помсты не прымусілі сябе доўга чакаць: агенты бязьлітасна нішчыліся "ляснымі братамі". Тады чэкісты пасьля выкананьня "заданьняў" пачалі перакідваць сваю агентуру ў іншыя раёны, каб ратаваць ад расправы "опытные кадры". Іншы раз, МГБ засылала свайго чалавека ў лес з мэтай аб'яднаньня асобных групак і асоб ды выяўленьня іх "пособников". Як сьведчаць сяляне, на Слонімшчыне такі атрад арганізаваў нейкі "Сібірак-Ваня", які аказаўся "прадацелем". У 1950 г. ён здаў МГБ свой атрад і вазіў па вёсках чэкістаў, паказваючы, хто яго карміў, даваў начлег, дапамагаў зброяй...

На пачатку 50-х гадоў, пасьля шматразовых амністыяў, у Харашэвіцкі сельсавет прыйшло паўсотні "лясных братоў". Яны склалі зброю перад на сьмерць перапалоханым старшынём і аб'явілі, што паверылі савецкай уладзе й вырашылі спыніць бессэнсоўную барацьбу. Ім даравалі й распусьцілі па хатах. Праз колькі месяцаў іх усіх вывезьлі ў Расею, адкуль, мабыць, ніхто ўжо і не вярнуўся...

**Сяргей Ёрш**

*На здымку: Партызанскі плякат.*

# Мэсіянства Ашэра Цёмкіна,

## або як беларускі габрэй выводзіў сыноў Ізраіля на шлях сапраўднае веры

*... І калі б я быў габраем і бачыў гэтых цельпукоў і ганіцеляў, як яны навучаюць хрысьціянскай веры, я б хутчэй стаў сьвіньнёй, чым хрысьціянінам.*

**Марцін Лютэр, 1523 г.**

Рaклаўшы канец існаваньню Вялікага Княства Літоўскага, расейскія акупанты сутыкнуліся на захопленых землях з шэрагам праблемаў, якія вынікалі з поліэтнічнасьці, поліканфэсійнасьці і ўвогуле зь непадабенства ладу жыцьця насельніцтва нашага краю. Габрайскае пытаньне, канчаткова ня вырашанае Чатырохлетнім Соймам і Канстытуцыяй 3 траўня, дасталася новым уладам як бы ў спадчыну.

Гэта была ня тая праблема, ад якой можна было адмахнуцца. Габраі складалі прынамсі палову, а ў некаторых месцах — пераважную большасьць усяго гарадзкога насельніцтва ВКЛ. Новая ж улада ставіла задачу "уніфікацыі" насельніцтва "воссоединенных" абшараў.

Для пачатку яны пазбавілі габраяў аўтаноміі, прыцягнулі іх да рэкруцкае павіннасьці. Што далей? А ці не зрабіць габраяў хрысьціянамі? Хрысьціянізацыя — у дачыненьні да гэтай часткі насельніцтва — сапраўды была б вартая любых іншых рэформаў, узятых разам. І тут не адкульнебудзь, а з самага ўлоньня хасыдзкае артадоксіі выйшаў чалавек, які прапанаваў свае паслугі праваслаўнай царкве. Для праваслаўных ерархаў такі набытак вучонага габрая-хасыда быў сапраўдным трыюмфам, доказам таго, што толькі праваслаўе — адзіны шлях да Бога...

Напрыканцы верасьня 1832 г. да магілёўскага праваслаўнага япіскапа Гаўрыіла прыйшоў незвычайны наведнік. Перад уладыкам стаяў сьціпла, нават бедна апрануты габрай, які назваў сабе яновіцкім мешчанінам Ашэрам Цёмкіным. Вытрымаўшы напачатку паўзу, Цёмкін, як сапраўдны дыплямат, паведаміў пра тое, што ён прасякнуўся ідэяй выкрыцьця памылак у веры сваіх айцоў: чытаў многія кнігі, вандраваў па розных месцах, гутарыў з рабінамі і вучонымі мужамі-габраямі, дзе толькі іх знаходзіў. Сабраўшы дастаткова матэрыялу для выкрыцьця юдаізму, ён напісаў на старагабрайскай мове да сарака старонак палемічнага тэксту. Але на тое, каб працягваць свой твор і надрукаваць яго зь перакладам на расейскую мову, ён з-за галечы сваёй не знаходзіць сродкаў. Пры гэтым Цёмкін асьцерагаецца, каб габраі, даведаўшыся пра ягоны намер, не загубілі яго.

Ідэя стварэньня антыюдэйскага твору зацікавіла Гаўрыіла. "Чаму ж вы, сын мой, дагэтуль ня выявілі жаданьня прыняць хрост?" — запытаў пастыр. Прыняць хрост Цёмкін быў гатовы хоць зараз, але выказаў думку, што больш карысна будзе, калі габраі даведаюцца пра сапраўднасьць праваслаўя ад свайго адзінаверца.

Плёнам гутаркі стаў ліст япіскапа да генэрал-губэрнатара віцебскага, магілёўскага, смаленскага і менскага князя Мікалая Хаванскага з прапановай спрычыніцца да справы і ўзяць Цёмкіна пад сваю абарону і апеку.

Праз некалькі тыдняў Цёмкіна сакрэтна выклікалі ў Віцебск. У губэрнатарскай канцылярыі яму ўчынілі падрабязны допыт, з матэрыялаў якога нам вядома, што дзед Цёмкіна быў гомельскім рабінам і меў прозьвішча Рабіновіч, бабка — дачка жлобінскага, а пазьней магілёўскага рабіна Цёмкіна. Дзед перайшоў на прозьвішча жонкі, бо сваё лічыў занадта распаўсюджаным. Бацька — Хацкель, вядомы сваёй сумленнасьцю і вучонасьцю, спачатку гандляваў, а гадоў за 20 да сьмерці заняўся чытаньнем габрайскіх кніг. Брат — Саламон — таксама адрозьніваўся вучонасьцю, якая не перашкодзіла, а можа і паспрыяла пераходу ў хрысьціянства, на што ён нават атрымаў блаславеньне бацькоў. Сам Цёмкін на 13-м годзе быў заручаны з унучкай жлобінскага рабіна. Тады ж Ашэр быў заўважаны ў габрайскім асяродку, як таленавіты прапаведнік.

Генэрал-губэрнатар Хаванскі спачатку папрасіў протаіярэя Віцебскага катэдральнага сабору, знаўцу старагабрайскай мовы Яфімія Рэмезава выпрабаваць Цёмкіна ў гутарцы і, атрымаўшы найлепшыя водгукі, загадаў выдаць Ашэру на ўтрыманьне і аплату даўгоў 300 рублёў. Рэмезаў стаў, скажам так, духоўным настаўнікам Цёмкіна.

Як і спадзяваліся Гаўрыіл зь Цёмкіным, генэрал-губэрнатар адзначыў важнасьць справы. Ён накіраваў ліст міністру ўнутраных справаў Блудаву з прапановамі. Але міністар аптымізму змагароў за праваслаўе не падзяліў, і нават выказаў меркаваньне: "Ці не правакацыя гэта?"

Невядома, чым бы ўсё скончылася, калі б не ўмяшаўся сам Мікалай І. Пад час побыту "жалезнага дэспата" ў Дзьвінску Хаванскі падаў яму даклад, у якім стараўся наконт кнігі і асобы аўтара — каб выключыць яго зь сям'ёй з рэвіскага стану, вызваліць ад патрэбы плаціць дзяржаўныя падаткі, а самога Цёмкіна прызначыць цэнзарам габрайскіх кніг.

Паводле найвышэйшага жаданьня ад 7 чэрвеня 1833 г. было загадана:

1. Выдаць твор на габрайскай мове зь перакладам на расейскую за кошт казны.
2. Раздаць патрэбную колькасьць асобнікаў сьвятарству заходніх губэрняў.
3. Астатнюю колькасьць прадаць за самы танны кошт на карысьць Цёмкіна.
4. Выдаць Цёмкіну акрамя 700 рублёў з экстраардынарных сумаў яшчэ 1.000 рублёў.
5. Кіраўніку справаў міністэрства народнае адукацыі высьвятліць, ці магчыма прызначыць Цёмкіна цэнзарам кніг габрайскага закону ў заходніх губэрнях[1].

Посьпеху Цёмкіна паспрыялі таксама наступныя абставіны — твор аддалі на разгляд вядомаму расейскаму багаслову і гэбраісту, прыдворнаму протаіерэю Паўскаму, які проста ненавідзеў габраеў. Водгук яго быў самы спрыяльны.

А што габраі? На запыт акупацыйных уладаў да яновіцкага кагалу наконт характарыстыкі Цёмкіна быў атрыманы наступны адказ: "Ён ёсьць рабін цудоўны (насамрэч Цёмкін пасаду рабіна не займаў, хоць некалькі разоў і атрымліваў прапановы — **С.Р.** і **А.Ш.**), поўны мудрасьці... Мы ведаем, што ад розуму яго навукі ня будзе ліха ніякаму чалавеку і шлях добрага — рабіць дабро... І ён узвышаны над нашымі радамі дасканалым веданьнем мовы сьвятой для Ісьціны. Працяг (жыцьця) яго беззаганны, дзеяньні яго праведныя, адхіленыя ад ліха, добры перад Богам і ў вачох людзей"[2]. Можна ўявіць рэакцыю ў кагале пасьля таго, як там даведаліся, якую паслугу рабіў Цёмкін былым адзінаверцам.

З моманту найвышэйшага загаду да надрукаваньня твору прайшлі два гады. Расейская бюракратычная машына зрабіла сваю справу — нават карысная для акупантаў і дзяржаўнай царквы ініцыятыва, і тая не праходзіла бяз розных затрымак і кручкатворства. Гэта датычыла як выданьня, так і статусу самога аўтара...

Пакуль ішла цягамоціна з друкам, Цёмкін, які лічыў сябе "тайным хрысьціянінам", пасьпеў адзначыцца ўчынкам далёка не хрысьціянскім. Чалавек, які мае прэтэнзіі ні больш, ні менш як на зьдзяйсьненьне духоўнае рэвалюцыі, у пачатку 1834 г. піша данос на імя кн. Хаванскага — пра злоўжываньні на Любавіцкім кірмашы[3].

Хаванскі адрэагаваў хутка — 30 студзеня 1834 г. загадаў магілёўскаму грамадзянскаму губэрнатару аказаць дапамогу Цёмкіну ў раскрыцьці згаданых злоўжываньняў. А праз два тыдні атрымаў рапарт, зь якога вядома, што падманным шляхам Цёмкін выпрасіў у начальства жандараў і ўчыніў самавольны ператрус у аднаго з купцоў[4].

27 красавіка 1834 г. Цёмкін прыняў хрост і ператварыўся з Ашэра ў Георгія Грыгор'ева. Вакантнае дагэтуль месца цэнзара было ўжо занятае, таму Цёмкін знаходзіўся ў Віцебску без усялякага занятку і ў адрыве ад сям'і. З рэвіскага сьпісу выпісаным быць ня мог, бо паводле закону павінен быў мець нейкі занятак. Пад ціскам жонкі ён зноў піша, цяпер ужо не данос, а сьлёзны ліст Хаванскаму, каб той не пакінуў у бядзе.

Нарэшце, у пачатку 1835 г. кніга ўбачыла сьвет пад прэтэнцыйнай назвай "Путь очищенный к познанию истинной веры. Собранный из книг Священных, из толкований Талмудических, и из книг Каббалистических, одним из Евреев по имени Ошером Темкиным, для исправления сердец сынов человеческих". Кніга была выдадзеная ў Санкт-Пецярбургу пры Імпэратарскай Акадэміі Навук. Асобнік аўтар падараваў у лютым 1836 г. князю Хаванскаму. Сам Цёмкін тады займаў пасаду псаломшчыка пры Магілёўскім катэдральным саборы.

Мэта, пастаўленая змагарамі за веру, дасягнутая не была. Хутчэй наадварот. Кнігі, разасланыя па епархіях, нібыта паходні, распальвалі абурэньне габраеў, што, у сваю чаргу, выклікала ўсеагульную апалёгію Талмуда. Не застаўся ў баку і вядомы габрайскі публіцыст і асьветнік Ісак-Бэр Левінзон, які літаральна зьнішчыў довады Цёмкіна.

Міжволі ўзьнікае сумнеў — ці не працаваў Цёмкін на карысьць юдэяў, у прыватнасьці, хасыдаў, загадзя прагназуючы вынікі сваёй працы? Да такой думкі схіляе справа, у якой імя Цёмкіна сустракаецца апошні раз. У 1837 г. зь ягонай наводкі магілёўская паліцыя затрымала некалькі габрайскіх кніг, выдадзеных рабіністамі (дарэчы, праверaных цэнзурай), дзе ён "адкрыў" недазволеныя выразы. Праз чатыры гады ўлады даведаліся, што пры перакладзе вучоны праваслаўны-хасыд Цёмкін перадаў сэнс скажона. На тым справа і скончылася[5]. Але цікавая атрымліваецца рэч. Свой "Путь очищенный" Цёмкін пабудаваў менавіта на выкрыцьці памылак і недарэчнасьцяў тых, хто рабіў пераклады Старога Запавету і іншых сьвятых для габраяў кніг, а тут самога яго расейцы абвінавацілі ў несумленнасьці. Ці не сьвядома памыляўся?

"Дэманструючы" перавагі праваслаўя, Ашэр-Георгі Цёмкін аказаў нашмат большую паслугу былым адзінаверцам, даўшы добрую падставу гучна заявіць аб праўдзівай сутнасьці сваёй веры.

**Сяргей Рыбчонак, Андрэй Шпунт**

*[1] Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі. Фонд 1297, воліс 1, справа 6617, арк. 37-38.*
*[2] Тамсама. Арк. 39-40.*
*[3] НГАБ. 1297-1-7752. Арк.І.*
*[4] Тамсама. Арк. 3-4.*
*[5] НГАБ. 1297-1-10431.*

Пра сваё падарожжа я даведаўся за паўтары тыдні да ад'езду. Назва форуму, у якім мусіў удзельнічаць, выклікала іранічную ўсьмешку — "Эўрапейскія дні ў Самары". Але пазьней высьветлілася, што слова "эўрапейскі" датычылася найперш швэдзкіх паэтаў Карла Мікаэля Бэльмана і Тумаса Транстромэра — яны і былі галоўнымі аб'ектамі ўсіх падзеяў насычанай двухдзённай праграмы.

Сярод фундатараў Дзён, поруч з Фондам Сораса і самарскімі банкамі, значылася пасольства Швэцыі ў Маскве, таму швэдзкая дэлегацыя на форуме была, бадай, самая прадстаўнічая — літаратары, перакладчыкі, літаратуразнаўцы, работнікі некалькіх пасольстваў з постсавецкіх краінаў. Найбольш вядомыя сярод іх — Ханс Б'еркегрэн, паэт і перакладчык Салжаніцына і Бродзкага, і Юхан Эбэрг — галоўны скандынаўскі "бэльманіст", пад яго рэдакцыяй і зь яго ініцыятывы выйшаў поўны камплект кампакт-дыскаў зь вершамі-песьнямі Бэльмана.

**ВІВАТ БЭЛЬМАНУ!**

Дні Бэльмана ў Паволскіх краях адбываліся сёмы раз. Іх ініцыятар — славуты чувaскі паэт, які другую палову свайго жыцьця піша па-расейску і жыве ў Маскве, Генадзь Айгі. Першыя тры бэльманаўскія акцыі прайшлі ў сталіцы Чувашыі Чабаксарах. Іх плёнам стаў дыхтоўны том паэзіі Бэльмана па-чуваску — тэксты побач з нотамі — Бэльман свае вершы сьпяваў пад гукі лютні.

Карл Мікаэль Бэльман нарадзіўся 4 лютага 1740 году ў Стакгольме і стаў галоўным клопатам швэдзкіх літаратуразнаўцаў усіх часоў. (Адзін зь іх, амаль мой аднагодак, гаворачы свае слова пра вакханічнага творцу-земляка пад час свайго выступу на круглым стале, так і сказаў — тэарэтычна яго ў Швэцыі не павінна было быць.) Зразумела, Швэцыя ня Грузія. Але ж бывае і ў швэдаў забурапеніць кроў... Першы зборнік вершаў стакгольмскага трубадура выйшаў у 1783 годзе і меў назву "Храм Бахуса". У ім паэт па-майстэрску, як дока гэтых справаў, увекапомніў самых вядомых у Стакгольме п'янюгаў і гулякаў. У расейскім перакладзе гэта гучыць так: "Радуйтесь, черти! Пейте до смерти! С польским кончайте, растак вашу мать! Вы недотепы, Старые жопы! Иль не под силу вам петь и плясать?" (Пераклад Сяргея Пятрова).

Пасьля сьмерці гэтага парушальніка асаблівасьцяў нацыянальнай мэнтальнасьці выйшла безьліч ягоных кніг, выходзяць

У 1954 годзе падчас аблавы ў Пірэнэйскіх гарах гішпанскія жандары забілі апошняга байца антыфашысцкай партызанкі, якая трывала тут з 1938 году. Пад небам Гішпаніі трыюмфавала бяздушная лёгіка: рэжым Франка, які падтрымлівацца ЗША, —гэта аб'ектыўная рэальнасьць, змаганьне зь якім дарэмнае. Моладзі прапанавалася канчаткова ўсьвядоміць, што "ўсё, што існуе — разумнае, а ўсё разумнае — гэта тое, што існуе" і вывучаць умовы і перавагі крэдытнай сыстэмы, якую тады адкрывала Эўропа.

Але насуперак палітычным разьлікам, моладзь паўстала. У пачатку 60-ых уся краіна была ахопленая дзейнасьцю маладых антыфашыстаў. Дылетанты ў падпольнай справе, яны хутка выкрываліся спэцслужбамі, але стрымаць хвалю супраціву было ўжо немагчыма.

У 1961 годзе ў шэрагу гучных назоваў разнастайных "франтоў", "партыяў" і "рухаў" зьявілася абрэвіятура "ЕТА" (Euskadi Ta Askatasuna, з баск. "Краіна Баскаў (Эўскадзі) і Свабода"). Гэтак называлася арганізацыя, што аб'ядноўвала маладых басконскіх патрыётаў.

Як палітычны рух басконскі нацыяналізм узьнік у другой палове XIX ст., але традыцыі аўтаноміі баскі захоўвалі здаўна. У Францыі басконскія правінцыі страцілі прывілеі на самакіраваньне толькі падчас Францускай рэвалюцыі, у Гішпаніі мясцовыя басконскія парлямэнты "фуэрос" існавалі да 1878 году. Што да вытокаў нацыянальнага палітычнага руху, то тут перш за ўсё трэба назваць братоў Арана. Цяжка пераацаніць іх культурна-асьвет-




ніцкую і палітычную працу: яны ўвялі ва ўжытак назву краіны "Эўскадзі", нацыянальны сьцяг "Ікурыньня", заснавалі першую і да нашых дзён дзейную палітычную арганізацыю баскаў — Басконскую Нацыянальную Партыю. У той час праграма партыі была зарыентаваная на пабудову ў краіне аграрна-дэмакратычнай ідыліі, накшталт прапановаў народнікаў.

У 30-я гады пасьля доўгіх хістаньняў, БНП далучылася да гішпанскага рэспубліканскага руху, наступствам чаго стала аўтаномія Эўскадзі ў 1936-38 гадах. Пасьля перамогі Франка статус аўтаноміі быў адразу ж скасаваны. Пачалася татальная "кастылізацыя" рэгіёну. Пад забарону патрапілі ўсе культурна-палітычныя праявы нацыянальнай адметнасьці. У гэтай сытуацыі БНП ня здолела арганізаваць супраціў. Яе пасьляваенная тактыка была абмежаваная "пасіўным" зборам інфармацыі і апэляцыямі да прагрэсіўных колаў Захаду.

Відавочна, што крызіс БНП падштурхнуў моладзь шукаць свайго шляху. У 1959 годзе вакол падпольнага часопісу

Алесь Аркуш

# Падарожжа праз два часавыя паясы

*Вікінгі на Волзе*




яны і цяпер, а геаграфія іх істотна пашыраецца. Сёньня ня знойдзеш ніводнага швэда, які б ня ведаў тузіну песень Бэльмана. (У гэтым я пераканаўся на свае ўласныя вушы). Ня менш эмацыйна сьпявала Бэльмана і чуваская дэлегацыя, зразумела па-чуваску, — маючы відавочны досьвед і добрую кнігу-сьпеўнік. Закахаўся ў Бэльмана і вядомы грузінскі паэт, таксама ўдзельнік форуму, Рэнэ Каляндыя — ён падпяваў і швэдам, і чувашам. Але ў адрозьненьне ад першых і другіх, менавіта Каляндыя надаў гэтаму фэсту бэльманаўскай аўтэнтычнасьці і дынамізму, бо прывёз тры бурдзюкі вінаграднага віна. (Як яму гэта ўдалося, бо ён прыляцеў самалётам, — засталося неразгаданай таямніцаю). Вось бы сюды Толіка Сыса, пад час некаторых дзеяў падумалася мне, але гэтак жа імгненна ўявілася шкоднасьць падобных думак — прапіў бы Толя два дні і нічога не запомніў, не занатаваў, не распавёў бы нам. І так шмат чаго мы ўжо прапілі.

Трэба ўсё ж зазначыць, — хоць і было багата віна, аднак "Эўрапейскія дні ў Самары" прайшлі вельмі інтэлігентна і эстэтычна. Адчувалася арганізатарская рука Айгі. Я толькі не зусім разумею, чаму гэтая легенда расейскага літаратурнага авангарду пачала праводзіць "бэльманізацыю" родных мясьцінаў? У ягонай паэзіі няма і мікрона кабацкага духу.

### ПРА БАРКОВА І СЬМЕРЦЬ АЎТАРА

Расейскія літаратуразнаўцы прынялі Бэльмана як свайго роднага. Хутка была распрацаваная відавочная, як яны лічуць, паралель з Іванам Барковым (каля 1732-68), "ненарматыўную" спадчыну якога ў Расеі толькі нядаўна ўпершыню надрукавалі. Даклад пра Івана Сямёнавіча зрабіў самарскі прафэсар Уладзіслаў Скобелеў. Ён так узьнёсла прамаўляў усім вядомыя па платах і сьценах прыбіральняў словы Баркова, што, здавалася, сьвяціўся пры гэтым. Навукоўца слухалі сур'ёзна, толькі на "галёрцы" пырскалі сьмехам студэнткі. Напэўна, Леанід Галубовіч, вушы якога пачырванелі ад дзьвюх старонак "Эрагеннай зоны" Чаропкі, правалiўся б у падвальныя памяшканьні самарскага Дома актора, дзе праходзіў бэльманаўскі дзень, будзь ён слухачом скобелеўскага спавешчаньня.

У перапынку круглага стала ўкраінскі паэт з львоўскай групоўкі Лугасад Іван Лучук паказаў прафэсару свой санэт, у якім зарыфмаванае клясычнае трохлітарнае слова. "Выдатна" — некалькі разоў паўтараў прафэсар. (І я не зразумеў — ці гэта сур'ёзна, ці ад ветлівасьці, ці ў кантэксьце свайго выступу.)

Каб не выглядаць правінцыялам, я расказаў дакладчыку пра тэвээлаўскія эратычна-літаратурныя практыкаваньні і падараваў шасьцідзесяцігадоваму прафэсару "Каву сярод ночы" Ігара Сідарука, "Ксэракс Беларускі №5" (Глёбуса пад рукою не было) і Ўладзіслаў Пятровіч у адказ з удзячнасьцю падпісаў мне сваю кнігу "Тэорыя аўтара і праблема мастацкай дзейнасьці" (1994, у суаўтарстве зь Мікалаем Рымарам). Прафэсар стаіць на пазыцыях, супрацьлеглых пашыраным у нас сёньня заходнеэўрапейскім літаратуразнаўчым канцэпцыям, якія дэкляруюць, што аўтар памірае. У кнізе "даказваецца неабходнасьць пераходу ад разуменьня аўтара літаратурнага твору толькі як суб'екта сьвядомасьці да яго тлумачэньня як суб'екта дзейнасьці".

### ШВЭДЗКІ КЛЯСЫК НАШЫХ ДЗЁН

На імпрэзе Тумаса Транстромэра (Tomos Transtromer) было больш камэрна. Паэт нарадзіўся ў 1931 годзе. Цяпер вельмі хворы —пасьля інфаркту згубіў голас. Аднак, ня гледзячы ні на што, працягвае пісаць вершы. Ляўрэат літаратурнай прэміі Бэльмана (швэды яе лічаць адной з самых прэстыжных). Леанард Нойгер чытаў Транстромэра па-швэдзку і па-польску (на пачатку 80-х у Швэцыю ён зьехаў з Польшчы). Расейская перакладчыца Аляксандра Афінагенава — зразумела, па-расейску. Рэнэ Каляндыя —па-грузінску. Тумаса называлі адным з сапраўдных лідэраў эўрапейскай паэзіі. У відэа паглядзелі ўрывак з дакумэнтальнага фільма пра паэта. Такую паэзію на беларускую мову добра б пераклаў Алесь Разанаў.

### РАЗДАРОЖЖА РАСЕЙСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ

Расейская дэлегацыя складалася пераважна з "хрэстаматыйных" авангардыстаў апошніх дзён — Дзьмітры Аляксандравіч Прыгаў, Леў Рубінштэйн, Аляксандар Макараў-Кротаў. Яны амаль не былі задзейнічаныя ў швэдзкай праграме і хутчэй прысутнічалі на фэсьце дзеля калярытнасьці і "зорнага" прадстаўніцтва. На "Вечарыне сучаснай эўрапейскай паэзіі" і на заключным галяканцэрце "Раўнавага віна і каханьня" расейскія авангардысты (канцэптуалісты Прыгаў і Рубінштэйн і мінімаліст Макараў-Кротаў) чыталі свае творы канца 80-х і пачатку 90-х.

Калі я бесцырымонна спытаў у Прыгава — мінуў ці не іх зорны час? — ён пачаў тлумачыць складанасьць сёньняшняй сытуацыі, калі катастрафічна звужаецца актуальнасьць слова. Аднак, Дзьмітры Аляксандравіч пагадзіўся з тым, што беларуская сытуацыя значна адрозьніваецца ад расейскай. Пры рэанімацыі таталітарызму важкасьць слова нарастае як сьнежны ком. Стод патрабуе ахвярных і рытуальных песьняў. А цьвярозы розум —тэкстаў супраціву. Усе расейцы зайздросна цмокалі языкамі, разглядаючы нашыя незалежніцкія літаратурныя выданьні апошняй хвалі і беларускія нумары польскіх часопісаў. Яшчэ больш яны "ўражваліся" пасьля паведамленьня, што значная частка друкаў —рэгіянальныя выданьні, — бо нават у Самары, дзе жыве 1700 тыс. жыхароў, няма ніводнага літаратурнага часопіса, толькі штомесячная газэта "Цирк Олимп", якую рэдагуе паэт Сяргей Лейбград — афіцыйны прад'юсар самарскага фэсту. Добра выглядалі (па-эўрапейску) і лугасадаўцы Іван Лучук і Назар Ганчар, якія прывезьлі літаратурныя часопісы роднай Галічыны.

### СЛОВЫ ПАДТРЫМКІ

Практычна ўсе ўдзельнікі фэсту пачыналі размову са мной з моцных выразаў адносна беларускай палітычнай сытуацыі. Больш за ўсіх спачуваў Рэнэ Каляндыя. Як высьветлілася, ён быў сябрам Зьвіяда Гамсахурдыі і пасьля сьмерці сябра выкінуў пасьведчаньне рэнэгацкага, як ён яго называе, Саюза пісьменьнікаў Грузіі і стаўся самотнікам у бацькоўскім Зугдзідзі. Самотнікам — у сэнсе адасобленасьці ад афіцыйнага культурнага жыцьця ў краіне (сем гадоў не друкаваўся), аднак не ў асабістым жыцьці. Як і раней, любіць віно і вясёлыя кампаніі. А зараз, як ён прызнаўся са сцэны самарскага Дома актора, пачне праводзіць "бэльманізацыю" родных мясьцінаў. Жыцьцё, маўляў, яшчэ ня скончылася! Перакажу прывітаньне Рыгору Барадуліну і Алесю Разанаву, што я і раблю.

Генадзь Айгі перадаваў свае слова падтрымкі Васілю Быкаву, а Леанард Нойгер узгадаў Алега Мінкіна, перакладчыка польскіх клясыкаў. Ханс Б'еркегрэн добра ведае Сьвятлану Алексіевіч, чарнобыльскую кнігу якой толькі што пераклаў — яе прэзэнтацыя ў Стакгольме адбудзецца ў красавіку. Практычна ўсе чулі (за выключэньнем швэдаў) імя Славаміра Адамовіча, пра турэмнае зьняволеньне паэта пісала і самарская газэта сучаснага мастацтва "Цирк Олимп". Што-небудзь яшчэ пра беларускую літаратуру ва ўдзельнікаў фэсту выведаць я ня здолеў. Нашая слава, відавочна, яшчэ толькі пачынаецца.

*27.03.97, Наваполацак*

# БАСКОНСКІ РУХ (ЕТА)

"Ekin" пачынаюць гуртавацца радыкальныя маладыя людзі, якія з часам парываюць з БНП, каб "адрадзіць гераічны басконскі мэнталітэт". Дэклеруючы свае першыя, прынцыпы новая арганізацыя вызначае сябе як "рэвалюцыйная і антыалігархічная". Яе ўдзельнікі, знаходзячыся пад уплывам пасьпяховых нацыянальна-вызваленчых рэвалюцыяў на Кубе і ў Альжыры, гавораць пра тое, што "капіталізм супярэчыць нацыянальным інстытуцыям". Згодна іхнай тэорыі, "басконская рабочая кляса, што прыгнятаецца Мадрыдам, ёсьць галоўным маторам нацыянальнага супраціву".

У аснову барацьбы з фашызмам ЕТА (так у хуткім часе стала называцца гэтая група) паклала тактыку "раскручваньня сьпіралі", якую распрацаваў адзін зь яе актывістаў Зальбідэ. Ён пісаў: "У сучасных умовах усе рэпрэсіўныя мерапрыемствы рэжыму выклікаюць рэвалюцыйны пратэст народа. Гэты працэс "рэакцыя — пратэст" з кожным новым узроўнем мае большы сацыяльны рэзананс і ў рэшце рэшт павінен выліцца ў рэвалюцыю".

У якасьці арганізацыйнай структуры "этарас" (байцы ЕТА) аддалі перавагу клясычнай змоўніцкай сыстэме "пяцёрак". Басц — адзінка ЕТА, ведае толькі сябраў сваёй пяцёркі, прадстаўнік якой уваходзіць у кантакты зь іншымі групамі, таксама праз прадстаўнікоў. Яе перавага ў тым, што ў выпадку правалу кола арыштаваных будзе абмежаваным адной пяцёркай, а арганізацыя ўвогуле будзе здольная змагацца далей.

З пачатку 60-ых гадоў "рэвалюцыйны рух за нацыянальнае вызваленьне" ЕТА пачынае практыкаваць выбухі бомбаў і дывэрсіі ў паліцэйскіх пастарунках, казармах, органах юстыцыі. У ходзе барацьбы першапачатковая ідэя разьвязаць партызанку ў гарах трансфармавалася ў ідэю партызанкі ў горадзе, т. зв. "вайна на асфальце".

У 1968 годзе, заклапочаны ўздымам радыкальнага руху, урад Гішпаніі прымае новы закон супраць тэрарызму. Хутка колькасьць арыштаваных дасягнула некалькіх тысячаў асобаў. З таго часу, як у ліпені 1961 году ЕТА ўзарвала першую бомбу, гэта быў самы моцны ўдар па ўзброеным патрыятычным руху. У арганізацыі пачынаецца дыскусія адносна пэрспэктываў барацьбы, якая выявіла тры пункты гледжаньня. Першая фракцыя ўвасабляла сабой сацыялістычны курс, які знаходзіўся пад уплывам нэатрацкістаў, і вымагала сынтэзу палітычнай барацьбы і ўзброенага супрацьстаяньня. Другая, т. зв. "нацыянальна-рэвалюцыйная" фракцыя рабіла стаўку толькі на рэвалюцыйны шлях згодна з ідэямі Мао Цзэ-дуна. Нарэшце, астатняе крыло "гуманістаў-сацыялістаў", што складалася галоўным чынам з інтэлектуалаў першай генэрацыі ЕТА, скептычна ставілася да марксізму-ленінізму. Гэтая група лічыла цэнтральнай "моўную праблему" і прапанавала ствараць не клясавы, а "нацыянальна-культурны" фронт.

Пошукі выйсьця з сацыяльнай абмежаванасьці шэрагаў ЕТА (як правіла, яе сябрамі былі ў першую чаргу студэнты) прывялі да энтрызму патрыётаў у працоўныя калектывы падчас страйкаў і працоўных канфліктаў. Гэта ў нейкай ступені вырашыла пытаньне агульнанацыянальнага характару руху. Адначасова ў лацінаамэрыканскіх "герыльерас" (партызанаў) пераймаецца тактыка выкраданьня замежных дыпляматаў і бізнэсмэнаў у першую чаргу тых краінаў, што супрацоўнічалі з Франка. Аднак галоўнае месца на шляху арганізацыі да масавага ўсенароднага руху займае Бургоскі працэс над 14 байцамі ЕТА па справе забойства паліцэйскага камісара Мансансаса.

Судовы працэс, які пачаўся ў сьнежні 1970 году, павінен быў з гледзішча ўладаў стаць паказальным над "басконскім экстрэмізмам". Галоўны пракурор патрабаваў для 6 абвінавачаных сьмяротных прысудаў. Аднак насуперак жаданьням франкістаў працэс узрушыў грамадзкасьць Гішпаніі і ўсёй Эўропы. Палітычныя маніфэстацыі ў падтрымку вязьняў-этарас выліліся ў страйкі, якія ахапілі ўсю Гішпанію. Нават камуністы, старадаўнія ворагі ЕТА, зьбіралі подпісы пад пэтыцыяй аб амністыі. Разьвязкай напружанай сытуацыі стаў перагляд справы абвінавачаных і адкліканьне сьмяротнага прысуду. Для ЕТА гэта была падвойная перамога: акрамя таго, што былі выратаваныя сябры арганізацыі, рух басконскіх патрыётаў стаў сапраўднай палітычнай сілай. ЕТА стала сымбалем антыфашысцкай барацьбы для саміх гішпанцаў. Як грыбы пасьля дажджу ў краіне пачалі зьяўляцца групы, як "Рэвалюцыйны Фронт патрыётаў-антыфашыстаў", "Ібэрыйскі Вызвольны Рух" і інш., якія, ня гледзячы на аспэкты нацыянальнага пытаньня, праяўлялі салідарнасьць з ЕТА. "У нас адзіны вораг — тое што нас аб'ядноўвае больш за тое, што разьядноўвае", — казалі гішпанскія антыфашысты. У сваю чаргу, прыхільнікі Франка аб'ядноўваліся паводле прынцыпу нянавісьці да ЕТА, ствараючы арганізацыі кшталту "АТЕ" (Анты-Тэрарызм ЕТА)...

**Лёлік Ушкін**

*(Працяг будзе)*

*Жыхары ў паветры блукаюць, як прыбышы, яны жытла шукаюць, яны жывуць у маёй душы.*

М.Шагал

... Сярод жыдоўскага насельніцтва Беларусі ў XVIII-XIX ст. атрымаў шырокае распаўсюджаньне хасыдызм, народная рэлігійна-містычная плынь юдаізму, якая надта далёка разышлася з артадаксальным юдаізмам, асабліва ў пытаньнях традыцыйнага сьветаўспрыманьня. Хасыдызм супрацьпаставіў талмудызму народны фальклёр і байкі беларуска-ўкраінска-літоўскіх жыдоў; пэсымізму, фаталізму і мэтафізыцы — дух геданізму і гумару. Хасыды навучалі бачыць ва ўсіх праявах натуры вышэйшы пачатак і з удзячнасьцю прымаць іх. Яны ўвялі ў культ элемэнты карнавалу і надавалі вялікі сэнс духу радасьці, музыцы, сьпевам і танцам, праз якія можна было дасягнуць экстатычнага стану. Існуе хасыдзкае паданьне: Бог стварыў сьвет у выглядзе начыньня, перапоўненага любасьцю, ня вытрымаўшы якое, начыньне лопнула, аднак ягоныя аскепкі, што разьляцеліся па ўсім сьвеце, па-ранейшаму захоўваюць частку Боскае дабрыні і сьвятла...

... З мастацтвам Шагала зьвязанае ўяўленьне беларускага жыдоўства пра сьвет зімны, як перагорнуты, зрушаны, які знаходзіцца пад узьдзеяньнем цэнтрабежных сілаў. Ствараючы новую мастацкую рэальнасьць, ён падсьведама адчуваў патрэбу зрушваць рэчы зь іх звыклых месцаў, перагортваць іх і падзяляць, такім чынам матэрыяльна ўвасабляючы юдэйскі міт... Створаная Шагалам рэчаіснасьць паўставала нібы ў працэсе несупыннага ўзьнікненьня, стварэньня, як у фальклёрных касмаганічных уяўленьнях, дзе верх і ніз увесь час мяняюцца месцамі, і ў гэтым колазвароце ніз і верх — толькі ўмоўнасьць...

... Прадзед Шагала, мастак Сегал, які паходзіў са Слуцку, расьпісваў сынагогі. Выявы аднаго з гэтых росьпісаў дайшлі да нас толькі на здымках, гэта славуты росьпіс сынагогі ў Магілёве 1780 году... На столі лятуць ільвы, грыфоны, алені, коні, птушкі, гронкі вінаграду ў эфіры мудрагелістых арабескаў... У 1928 годзе ў газэце "Ды ідышэ вэльт", што выдавалася ў Літве, Шагал прыгадваў: "Лежачы на стосе газэтаў у пустым тэатры і гледзячы з падлогі на столь, я малю свайго прадзеда, які расьпісаў сынагогу, падараваць майму пэндзлю хоць адзіную кроплю жыдоўскае сапраўднасьці"...

... Другой крыніцай, зь якой Шагал шырока запазычнаў, было праваслаўнае мастацтва. Яго ён мог шырока бачыць у Беларусі на мяжы стагодзьдзяў, калі справа "адраджэньня" праваслаўя набыла нябачаны размах: будаваліся шмат новых цэркваў, па-новаму расьпісваліся і аздабляліся колішнія уніяцкія й каталіцкія бажніцы, прывозілася безьліч новых расейскіх абразоў... Але толькі падчас свайго першага прыезду ў Расею, у 1907 годзе, дзеля паступленьня ў Вучэльню тэхнічнага маляваньня барона фон Штыгліца ў Пецярбургу, Шагал змог пабачыць сапраўдныя старыя праваслаўныя абразы... Вялікая калекцыя ўнікальных абразоў знаходзілася ў музэі Аляксандра III. Ён адчуў тады "шок", як прыгадваў пазьней... Менавіта пад узьдзеяньнем іканапісу Шагал здолеў узьняцца да містэрыі паралельнага Сьвету, да недасягальна высокага ў будзённым. У юдэйскай традыцыі існавала табу на чалавечыя выявы. У раньніх працах Шагала ўплыў старажытных абразоў амаль літаральны, да прыкладу, у эскізе да палатна "Працэсія", дзе імітуецца "рад", які звычайна ў праваслаўным мастацтве рэпрэзэнтуе прарокаў, а пэрсанажы, якія паказваюць задушную жыдоўскую службу, выкананы як "лікі", альбо ў малюнку "Мацярынства" ("Цяжарнасьць"), дзе выява немаўляці ў жываце маці нібы скапіяваная з абразоў кшталту "Прадвяшчэньне", у якіх вобраз будучага Хрыста зьмешчаны ў мандарле, пасярод

Марк Шагал. Прамэнад. 1917, палатно, алей, 170х163,5.



## Сто твораў мастацтва XX стагодзьдзя

# Марк Шагал. Прамэнад

выявы Божае Маці... Большага Расея яму даць не магла, і ён яе пакінуў...

... У 1910 годзе Шагал трапляе ў Парыж, гэткім чынам прадвызначаючы свой будучы лёс... Тут крыніцаў для мастацкага станаўленьня было безьліч. Ён знаёміцца з творамі сваіх першых куміраў: Гагена, Сэзана, Лятрэка, сыходзіцца з колам фавістаў Матыса і з "арфістамі" кола Дэлянэ. Выключную ролю ў фармаваньні густаў Шагала адыгралі Апалінэр і Сандрар, праз іх ён і ўвайшоў у сьвет паэзіі. Менавіта яго мастацтва Апалінэр назваў "звышпрыродным", папярэдзіўшы тэрмін "сюррэалізм" (па-над рэальнасьцю)... "Я жыў у Парыжы, адвярнуўшыся сьпіною ад усяго, што мяне атачала...," — напіша Шагал пазьней...

У 1914 годзе Шагал сьпяшаецца назад да родных, у Беларусь. "Ваколіцы Віцебска" — малюнак, зроблены ў гэты год — трапна перадае настрой у прадчуваньні катаклізму, што неўзабаве абрынуцца на радзіму мастака. Па-над местам лунае постаць барадатага чалавека... Прадзеда? Дзеда? Ці бацькі-крамніка? Дамкі, царкоўка, нерэальныя ў брутальнай рэальнасьці... Гэты малюнак мастак неўзабаве ўвасобіў у жывапісе. Элемэнтарны малюнак, пэрспэктыва, якая перакошвае будынкі, платы і стрэхі, ствараючы вобраз Віцебска менавіта такім, якім ён і мог быць у 1914 годзе.

У першыя ж гады бальшавіцкага перавароту Шагал актыўна спрычыніўся да стварэньня новага ладу... Ён разумеў сваю задачу прыгожа. Будучы ўпаўнаважаны камісарамі ачоліць мастацтва ў Віцебску, ён аздабляў горад да ўсіх палітычных акцыяў. Да другой гадавіны кастрычніцкай рэвалюцыі здолеў-такі зьдзівіць землякоў. Перад імі раскрылася надзвычай каларытнае, парадаксальнае відовішча: будынак сабору на цэнтральным пляцы места быў зацягнуты вялізным палатном, якое размаляваў Шагал. На ярка-зялёных конях у яблыках даўгабародыя старыя ўзьляталі ў неба... "Ачышчальны віхор рэвалюцыі зьмёў усе перашкоды... А коні — гэта чалавечая мара: маладая і зялёная, як квітнеючы сад, зялёная, як маладая надзея...," — гэтак тлумачыў сваю задуму сам Шагал. Сапраўды, якое дачыненьне да рэвалюцыі маюць барадачы, што конна разьяжджаюць па саборы?.. Аналягічна вырашыў падобную задачу і Альтман, афармляючы да ўрачыставаньня Палацавы пляц у Пецярбургу. Альтман прапанаваў перафарбаваць у чырвань царскі палац, зацягнуць чырвоным радном дамы, дрэвы, намякаючы такім чынам на татальны чырвоны выбух, у сярэдзіне якога знаходзіцца гледач. Альтман тлумачыў: шкада, што гэта не сапраўдны выбух! У Пецярбургу выбуху не адбылося, выбухі скаланулі пазьней Віцебск... А Шагал паехаў за сваімі зялёнымі марамі...

Але да таго, як сьвет зьмяніўся канчаткова, мастак піша "Прамэнад". ... Малады местачковы чалавек інтэлігентнага выгляду трымае за руку дзяўчыну, якая, нібыта паветраны зьмей, лунае над горадам. Сам маладзён таксама ўжо прыўзьняўся над зямлёю... Закаханы ўзьлятаюць ад шчасьця... Горад, любімы горад, зусім не такі, як на працах 1914-16 гадоў: чысты, сьвяточны, безь мізантрапічнае мітусьні. Адраснасьць вельмі канкрэтная, ня ў прыклад іншым мастакам таго часу, якія ўсё ж абагульнялі Віцебск, ствараючы зь яго знак, не зважаючы на ягоную самакаштоўнасьць, у Шагала пазнавальнае ўсё — край, горад і вуліца. "У мяне няма ніводнае карціны, на якой вы ня ўбачыце фрагмэнты маёй Пакроўскай вуліцы. Гэта, бадай, недахоп, але толькі не з майго пункту гледжаньня," — скажа мастак праз шэсьцьдзесят (!) гадоў.

"Прамэнад" не зусім тыповы твор Шагала. Жывапіс гэтага палатна па-акварэльнаму лёгкі, празрысты, зусім не падобны на жорсткі, кантрасны шагалаўскі жывапіс, пра які яшчэ ў Пецярбургу яму заўважыў ягоны зямляк і супляменьнік Бакст: "Вы таленавітыя, але неахайныя". Пра "Прамэнад", ружавата-залацісты, травяніста-блакітны, напісаны нібыта ў адно імгненьне пасьля дажджу, у хвіліну гарэзьлівай летуценнасьці, Бакст такога б не сказаў... Шагалаўскі каларыт, стопрацэнтава тутэйшы, аднак застаўся. Як і сюжэтны прыём "палётных" вобразаў, у якіх цепліцца любасьць вышэйшая. Аднак кампазыцыя, зноў жа, нязвыкла "ахайная", амаль клясычная, не падобная на кадры з касьмічнага хаосу, па якіх беспамылкова пазнаецца гэты майстар. Лужок, край вуліцы па далягляду, радаснае неба і жывая зямля. Усё той самы абрыс віцебскага сабору.

Марк Шагал, ня гледзячы на тое, што яму выпаў унікальны шанец — выхаваць цэлую губэрню на сваіх ідэях — не здабыў удзячнасьці ў Беларусі. Нават улюбёны настаўнік, аўтар ягонага партрэту, Пэн, старэнькі Пэн, пасьля спуджана прамаўляў, што гэты яго вучань не вялікі мастак, бо не рэаліст. Недалёкія савецкія "спэцыялісты" сыпалі сэнтэнцыямі, накшталт: "Шагал, вядома, не рэаліст, людзі па паветры ня лётаюць". А вядомыя савецкія мастакі-"культуролягі" спускаліся і да заўвагаў, што ён пакінуў краіну ў самыя цяжкія часы, як і шмат хто з багатых жыдоў.

Не, Шагал не рэаліст. І ня імкнуўся такім быць. Ён хацеў быць юдэем насапраўднаму. Ён хацеў бачыць ў сьвеце болей, чым можа чалавек. Ён хацеў быць паэтам у мастацтве.

"... Ты крыўду маеш, мая краіна?  
Што ў бутлі вада,  
я перад табою адкрыты,  
даўно ўжо ты кінула сына ў чуж-чужыну,  
надзяліўшы тугою".

*(М.Шагал)*

"Прамэнад" стаў найбольш "адаптаваным" творам Шагала. Лягчэйшы да ўспрыманьня, больш лагодны і дабрэйшы за большасьць ягоных твораў пачатку стагодзьдзя. Ужо па вайне яго пачалі рэпрадукаваць у шмат якіх выданьнях, а сама карціна заняла сваё пачэснае месца ў экспазыцыі савецкай Трацякоўскай галерэі, а пасьля — нават у хрэстаматыях. Беларусь, Віцебск, Пакроўская вуліца...

У 1921 годзе Марк Шагал пакінуў Беларусь. Сьвет, у якім паўстаў ягоны талент, перастаў існаваць фізычна. Праз год, ужо ў Парыжы, ужо па-францускy ён напісаў: "Ці ж я ня меў рацыі ў сваіх пластычных прадчуваньнях, бо мы і сапраўды ў паветры, і пакутуем адно ад хваробы — прагі стабільнасьці".

Тым часам на іншым краі плянэты, у Бразыліі, расквітнеў талент другога праўнука жывапісца са Слуцку — Лазара Сегала... "Увесь сьвет даўно стаіць дагары нагамі" (М.Шагал).

**Сяргей Харэўскі**

**Марк Шагал** (1887, Лёзна — 1985, Парыж), жывапісец, графік, сцэнограф, майстар дэкаратыўна-ужытковай пластыкі і вітража, паэт, пэдагог. Са старога жыдоўскга роду Сегалаў, праўнук мастака Сегала, аўтара росьпісаў у сынагогах. Першапачатковую мастацкую адукацыю атрымаў у Віцебску, у майстэрні



Ю.Пэна, пазьней вучыўся ў Пецярбургу ў Л.Бакста, ураджэнца Горадні. З 1918 — губэрнскі ўпаўнаважаны ў справах мастацтва, член губэрнскага Савету камісараў, з 1919 — дырэктар Народнай мастацкай школы. З 1921 году ў Маскве. Жыў у Францыі (1910-14, 1923-41, з 1947), Мэксыцы, ЗША.




**ПАДЗЕІ ГОДУ**

850 гадоў таму ў Іпацьеўскім летапісу ўпершыню згадваецца Брагін. Старажытны Брагін узьнік як дрыгавіцкі горад у зоне кантактаў дрыгавічоў, палянаў і севяранаў.

725 гадоў таму скончанае будаўніцтва Пізанскага сабору. Пачалося будаўніцтва ў 1063 годзе. У саборы захаваліся аўтэнтычныя бронзавыя дзьверы (XII ст.). Ён быў пабудаваны амаль на два стагодзьдзі раней за кампанілу — знакамітую вежу, якая падае.

575 гадоў таму князь Іван Уладзімеравіч Бельскі, які валодаў горадам Белы на р. Обша (сёньня Цьвярская вобл.) ажаніўся з Васілінай (Васай) з роду Гальшанскіх, якая была сястрой Софіі, жонкі польскага караля Ягайлы. Бельскі меў ад гэтага шлюбу 7 дзяцей.

475 гадоў таму Бона Сфорца, вялікая княгіня літоўская і каралева польская, другая жонка вялікага князя ВКЛ і польскага караля Жыгімонта І Старога, маці Жыгімонта ІІ Аўгуста, ўвяла ў Беларусі новыя формы землекарыстаньня і абкладаньня сялянаў павіннасьцямі. Гэта паспрыяла засваеньню лясных масіваў, узьнікненьню новых населеных пунктаў.

475 гадоў таму Ф.Скарына абсталяваў у Вільні друкарню і надрукаваў "Малую падарожную кніжку".

425 гадоў таму ў Нясьвіжы Сымон Будны выдаў Біблію на старапольскай мове.

425 гадоў таму запісаны партугальскі эпас. Ён меў назву "Лузіяды". Стваральнікам быў Л.В. ды Камоэнс, партугальскі паэт часоў Адраджэньня, які апісаў у эпічнай паэме плаваньне ў Індыю партугальскага падарожніка Васка да Гамы. Паэма прынесла Камоэнсу сусьветную славу.

300 гадоў таму Магілёўская друкарня М.Вашчанкі выдала "Эвангельле вучыцельнае" Кірылы Транквіліёна Стаўравецкага.

275 гадоў таму памёр Міхал Казімір Коцел, дзедзіч мястэчка Беніцы (Лебедзеўскі сельсавет, Маладачанскага раёну). Ён быў таксама падскарбім ВКЛ, кашталянам троцкім і віцебскім, прызнаваў, што "бейніцкія даўгі" немалыя і ён іх пакрывае за кошт далучаных фальваркаў Сівіцы, Рэдзек, Нялідак, Заскавіч і інш.

275 гадоў таму ў Кітаі разам са сьмерцю імпэрата-

*У сакавіку ў вядомай менскай галерэі "6-я лінія" адбылася сумесная выстава Віктара Пятрова і Тодара Копшы, якая па сутнасьці стала ці ня самай прыкметнай акцыяй галерэі за мінулы месяц. У адкрыцьці выставы, на якой перадусім Пятроў задэманстраваў свой пэрфоманс, паўдзельнічаў і славуты гурт NRM, і амаль уся рэдакцыя Радыё 101,2. Пасьля гэтага ў рэдакцыі "НН" адбылася гутарка зь Віктарам Пятровым, які адказаў на пытаньні нашага карэспандэнта Хруцкага.*

Віктар Пятроў:

# "Жыву пакуль тут..."





Пэрфоманс "Рэанімацыя", вёска Бачэйкава, былы маёнтак Цеханавецкіх, Віцебская вобласьць, жнівень, 1996 год.

Хруцкі: Як бы ты сёньня вызначыў уласную творчасьць, імя ўласнае? Што гэта наогул і што гэта для цябе самога?

V.P.: "НЕШТА" — заўсёды акрэсьленае ў часе. Гэта моманты альбо пэрыяды, параграфы самарэфлексіі. Яны сьціскаюцца ў адно імгненьне і прадстаўляюць тамака вечнасьць. Усе даўно ведаюць, што такое карціна, а распазнаць творчасьць ня могуць. Кажу вам, не ламіце галаву над находжаньнем творчасьці. Не мітусіцеся з кута ў кут, кажу вам, с-ь-в-я-т-л-о С-у-с-ь-в-е-т-у н-я м-а-е б-е-р-а-г-о-ў, а існасьць сьвету, што ўваходзіць і сыходзіць з гэтае карціны — нашы мроі, якімі мы і жывем у выдаткаваных нам ілюзіях, фантазіях і марах. Гэта і ёсьць карціна, наша перажываньне... нашае хваляваньне і апроч гэтага... нічога няма. Гэта і ёсьць "НІШТО".

Хруцкі: Можа, мы адхіліліся ў бок таго, што немагчыма намацаць?...

V.P.: Да пэўнае ступені... Я толькі хацеў зьвярнуць увагу на тое, што для мяне паняцьце альбо фэномэн "уласнае творчасьці" і ёсьць таямніцаю, якая зрушваецца ўвесь час у нябыт, хоць, безумоўна, і візуальныя фэномэны гэтых тайнаў маюць месца і іх рэальны вонкавы вобраз мае сваю форму... якую можаш памацаць... Вось жа ня можам мы сысьці далёка ад зямных стэрэатыпаў. Іхнія формы ўжо прадыктаваныя. Аднак лязо нашых уяўленьняў зразае іх! Працуе і вонкавы скальпель і ўнутраны духоўны космас, менавіта гэта і вызначана ў канвэнцыйным слоўніку як "аўтэнтыка".

Хруцкі: Як я зразумеў... ты ня ймкнесься ўкладацца ў межы канвэнцыяў, але ці ж ня з гэтага складаецца тваё "ego", якое ты імкнесься распусьціць?...

V.P.: Так... бадай, і для мяне гэта невырашальная задача... Бо эгацэнтрызм — гэта кандэнсатар. Гэта цэнтар збору. Пакуль для мяне паняцьці ўнутранага і вонкавага космасу разарваныя. Я абіраю фэномэны менавіта з тых уяўленьняў, якія ЁСЬЦЬ. Я іх прыўлашчваю — перасякаючы чужыя межы. У чымсьці яны становяцца і маімі... Спусьціўшыся на зямлю, што я ведаю пра тых, хто вандраваў, а цяпер прасоўваецца ў эзатэрычных вучэньнях: пантэоны Эгіпту, Мая, Зараастрыйцаў, Дао альбо Дзэн?.. Для мастака гэта толькі абдымкі каханьня. Хоць і гэта ўжо нямала. Сьвет існуе, і гэтага ўжо дастакова.

Хруцкі: Карціна йснуе ў сваёй рэчаіснасьці, гэта плоскасьць, тым больш, што выява на ёй зафіксаваная жорстка, у адрозьненьне ад віртуальнае рэчаіснасьці экрану...

V.P.: Гэта тэхнічны аспэкт, але ня толькі, тут задзейнічана ўжо і паняцьце часу. У розных вымярэньнях яно адноснае. Так нават ужо навука гаворыць. А таму паняцьці Вечнасьці й Імгненьня для мяне зьліваюцца адно ў карціне. Я называю гэтую зьяву — Глыбінны Космас. І менавіта ў гэтай кропцы магчымы ўзьлёт на вяршыню чалавечага духу. І зьява такога перажываньня ні з чым не зраўняецца. І яе можа выявіць толькі мастак, паказаць тое, што і за плоскасьцю адчыняецца рэальны досьвед такога глыбіннага перажываньня. Такая магія разьлічаная не на ўсіх. Толькі на абраных. Мутацыі экрану здольныя дамалёўваць, тады, калі чалавек ужо ў сярэдзіне віртуальнага сьвету, але спэцэфэкты толькі імі і застануцца — больш нічога. Ім неабходнае агучваньне, пахі і яшчэ безьліч падпорак. У выніку — перажываньне, але не сапраўднае. Хоць, трэба перадусім заўважыць, што гэта, у першую чаргу, будзе залежаць ад таго, хто гэткія сьветы будзе ствараць.

Хруцкі: Пакінем "карціну". Дакладней, яна застанецца... з мастаком?

V.P.: Безумоўна, толькі рыштунак розны. Аснова пакуль адна. Чалавек, Зямля, Неба... клясыка.

Хруцкі: Вернемся да пачуцьцяў. Пачуцьцё жаху. Яно пераважае ў большасьці тваіх працаў...

V.P.: Дакладней, працы выклікаюць гэтае пачуцьцё. Гэта сродак. Жах — буйное пачуцьцё. Ён здатны выклікаць хвалю, а гэта ўжо містыка, той памежны стан паміж сном і бязданьню ўяўленьняў. Для мяне ён зьвязаны з праблемамі ўзаемадзеяньня энэргіяў. Плянэта, паводле прыкладу ўсяго жывога, робіць уздых на піках высокіх гораў — гэта плюс, і выдых у нізінах балотаў — гэта мінус, такім чынам Беларусь — на выдыху, а адпрацаваная энэргія мае шмат агульнага са страхам. Гэта спараджае міталёгію зь легіёнам пярэваратняў, што блукаюць у прасторах галоваў. Гэта пакуль нявызначаным чынам зьвязана з нашым мастацтвам, у якім найбольш глыбокія пачуцьці — пакінутасьць, марнасьць, роспач, і велізарныя прасторы Неба. У маіх працах гэтага амаль няма, аднак жа непазьбежна ёсьць.

Чалавек займае велізарную частку прасторы, магчыма як асноўны герой дзеі, што разгорнутая на тле прасторы. Гэта яшчэ і тое, што выяўляў чалавек на сьценах каменных пячораў і ўся гісторыя мастацтва, але гэта і ёсьць непарыўны ланцуг, да якога дадаюцца новыя зьвёны, гэтак званы падставовы сусьветны кантэкст. Для мяне ўсё гэта спрэсаванае: мастацтва шаманаў, Эгіпэт, фрэскі даоскіх манастыроў, сымбалізм Рэчы Паспалітае, лепшыя ўзоры Духу... Яно застаецца ўсё і жыве ўва мне, у маім геа-рэгіёне — Рэч Паспалітая, якая вылучае нашу мэнтальнасьць з усяго астатняга сьвету.

Хруцкі: Настальгія па сымбалізьме. Рамантызм, які памёр, не пасьпеўшы ў сучасны сьвет?

V.P.: Шмат у чым сучаснае мастацтва ўжо не працуе на гэтым матэрыяле, аднак для мяне тут няма супярэчнасьцяў. Найноўшае тэхнакратычнае мастацтва сьвету разьвіваецца ў некалькіх галоўных рэчышчах: экалягічнае мастацтва, тэхнакратычны інтэлектуалізм, "навуковы канцэпт" альбо палягчаны поп, фота-відэа мэдыюм і паўсюль крытыка, крытыка. Далей, у сярэдзіне яго існуюць мастакі, якія сьцьвярджаюць тое, што зацыклены інтэлект, экалёгія ды іншыя навуковыя дысцыпліны застаюцца ў прыярытэтах навукоўцаў, а мастацтва застаецца ў сваёй дарозе. Інтэлектуальныя ці вэрбальныя падпоркі толькі гэткімі і застаюцца! Мастак глядзіць у бясконцасьць, а ня корпаецца ў гародчыку. Я разважаю па-за залежнасьцю ад таго, якімі матэрыяламі і якім рыштункам працуе мастак. Заўсёды можна вызначыць сутнасьць таго, чым яны займаюцца.



Хруцкі: ... Пазыцыя мэсіянства ўжо састарэла...

V.P.: Я маю іншую думку. Захад імкнецца накінуць уласнае меркаваньне пра ўсё, сваё разуменьне прагматызму. Усход імкнецца прыстасаваць традыцыю, адбываецца канвэргенцыя, ці, мякчэй, узаемаўплыў. Але пра гэта сёньня ня кажа хіба што лянівы. А сам мастак — усярэдзіне свайго мастацтва, паміж Зямлёю і Небам.

Хруцкі: Нарэшце, пра сябе...

V.P.: Жыву пакуль тут. Увесь час у пошуку на мапе сьвету зоны, у якой можна жыць. І... удзельнічаў у больш чым 30-ці выставах, на радзіме, у Эстоніі, Расеі, Польшчы, Літве, Францыі і гэтак далей, між імі 6 пэрсанальных. І гэта за апошнія 10 гадоў. Апошняя была вось гэтая, разам з мастаком Тодарам Копшам у "6-ай лініі". Канстатую, што за ўсе гэтыя гады на выставах ніхто не падараваў ніводнае кветкі...

Хруцкі: Дзякуй! Хацелася б нешта паўтарыць, дагаварыць, але... вось табе кветка...

Унізе: пэрфоманс каля карціны "Мніхі Дзэн", галерэя "6-я лінія", Менск, сакавік, 1997 год.







ра дынастыі Цын Kaнсі ў 1722 годзе скончаецца і мастацтва пэрыяду Kaнсі. Kaнсі праводзіў агрэсіўную палітыку ў дачыненьні да суседніх краін і народаў. Менавіта ён паклаў пачатак так званай літаратурнай інквізыцыі.

225 гадоў таму пасьля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай задзьвінская частка Бешанковічаў (500 дв.) адышла да Расейскай Імпэрыі, астатняя (каля 1750 двароў на 1785 г.) адышла пасьля 2-га падзелу, у 1793 г.

125 гадоў таму ў Гельсынкі (Фінляндыя) быў заснаваны Фінскі нацыянальны тэатар.

75 гадоў таму, праз 5 гадоў пасьля кастрычніцкага перавароту, для вывучэньня кан'юнктуры рынку, арганізацыі тавараабароту, дзяржаўнага ўзьдзеяньня на прыватны рынак, створаныя 3 таварныя біржы: Віцебская, Менская і Гомельская.

75 гадоў таму ў Беларусі ўводзіцца новая форма дапамогі беспрацоўным — грамадзкія працы: добраўпарадкаваньне вуліц, земляныя работы.

50 гадоў таму ў Парыжы пачаў выдавацца грамадзка-рэлігійны, літаратурна-гістарычны часопіс "Божым шляхам". Выдаваўся беларускім грэка-каталіцкім (уніяцкім) духавенствам.

50 гадоў таму ў Эдынбургу (Шатляндыя) пачалі праводзіцца знакамітыя міжнародныя музычныя і кінафэстывалі. У гэты ж год у Празе пачаў праводзіцца музычны конкурс "Праская вясна".

50 гадоў таму на высьпе Хансю (Японія) з прычыны вялікага навадненьня, выкліканага тайфунам, загінула 2000 чалавек. Хансю (Хандо) — найбуйнейшая выспа Японскага архіпэлягу. На высьпе пераважна горная мясцовасьць, мноства вульканаў, моцная сэйсмічнасьць. Асноўныя гарады — Токіё, Осака, Нагоя, Кіёта.

25 гадоў таму ў Грозным (Чачэнія) быў заснаваны свой унівэрсытэт — Чачэна-Інгускі унівэрсытэт імя Л.Талстога.

***КРАСАВІК***

225 гадоў таму нарадзіўся нямецкі пісьменьнік і філёзаф Наваліс (Фрыдрых фон Хардэнборг). Прадстаўнік енскай школы рамантызму.

150 гадоў таму ў Маўрыкіі зьявіліся першыя паштовыя маркі. Гэта было ў той самы год, калі паштовыя маркі зьявіліся і ў ЗША.

**10 красавіка**

200 гадоў таму нарадзіўся Клёд-Амбруаза-Сэра з горада Труа, што ў Францыі. У жніўні 1825 году яму зьмерылі аб'ём біцэпсаў. Ён быў роўны 10 см. Адлегласьць паміж яго сьпінай і грудзямі была менш за 7,6 см. Згодна адной крыніцы, ягоны рост быў 171 см, а вага 35 кг, паводле іншых зьвестак, рост быў 163 см, вага — усяго 16 кг.

25 гадоў таму ў Іране, у 600 мілях на поўдзень ад Тэгерана падчас землятрусу загінула 5000 чалавек.

**14 красавіка**

150 гадоў таму ў Барсэлёне сьвяточна адкрыўся тэатар "Лісэо".

**15 красавіка**

125 гадоў таму нарадзіўся знакаміты амэрыканскі астрафізык Абот Чарльз Грылі. Грылі дажыў да глыбокай старасьці і памёр у 1973 годзе, калі меў 101 год.

**16 красавіка**

25 гадоў таму пачаўся палёт амэрыканскага касьмічнага карабля Апола-16. На яго борце былі тры касманаўты: капітан Джон В.Янг, лейтэнант-камандор Томас Матынглі і лэйтэнант Чарльз М.Дзюк. Карабель зьдзейсьніў палёт і пасадку на Месяц. Місія скончылася пасьпяхова 27 красавіка пасадкай у Ціхім Акіяне. 16-18 красавіка

50 гадоў таму ў Тэхасе (ЗША) з прычыны выбуху на караблі большая частка горада была зьнішчаная пажарам, 516 чалавек загінулі.

**17 красавіка**

350 гадоў таму быў забіты Мазаньела, італьянскі рыбак і правадыр народнага паўстаньня. Яму было толькі 27 гадоў. Мазаньела змагаўся супраць гішпанскіх уладаў і быў забіты на загад віцэ-караля.
100 гадоў таму нарадзіўся амэрыканскі пісьменьнік Уайлдэр Торнтан Нывэн. Аўтар гістарычных твораў (аповесьць "Мост караля Людовіка Сьвятога", 1927, "Мартаўскія іды", 1948), раманаў пра сучаснасьць "Дзень восьмы" (1967), "Тэафіл Норт" (1973) і п'есы "Наш гарадок" (1938).

**22 красавіка**

25 гадоў таму ляўрэатам ленінскай прэміі ў галіне літаратуры стаў Іван Мележ.

# Грошы

Занатоўкі эгаіста



**Адам Глёбус**

- Вядома, сярод багатых вельмі рэдка сустрэнеш мудрага чалавека, але сярод бедных такога знайсьці яшчэ цяжэй.

- З кім пагаворыш пра багацьце, калі і золата, і дыямэнты маўчаць? Застаецца перашэптвацца пра грошы з папераю.

- Капітал, як стары зводнік, заваблівае наіўных у сьвет перажываньняў, турботаў і няпэўных пэрспэктываў. Толькі бедны шукае ў капітале свабоду й незалежнасьць.

- Калі абмяркоўваюцца галеча ці багацьце, ня трэба параўноўваць іх з уласнымі стратамі або набыткамі, бо гэта непрыстойна.

- У зьменлівым сьвеце няма нічога вартага глыбокіх перажываньняў, і грошы не выключэньне.

- Наяўнасьць у доме вялікага багацьця, як і прысутнасьць у горадзе безьлічы салдатаў, спакою не дадае.

- Месяц, пабыўшы поўняю, робіцца ветахам; справа дасягае росквіту і прыходзіць у заняпад. Усё, што даходзіць да кульмінацыі, набліжаецца да разбурэньня — такі закон. Каб захаваць касу, грошы й багацьце, неабходна мяняць справы й шукаць новыя шляхі заробку. Правіла актуальнае ня толькі для заможных, але й для бедных найперш.

- Існуе зваротная сувязь у паводзінах. Пасядзі на занятках, зрабіўшы твар ідыёта, — нічога не зразумееш і не запомніш. Нельга малпаваць злодзея, жабрака, нямогу. Маска хутка прырастае да твару. Каб стаць заможным, трэба спачатку стаць падобным да заможных і разумных, а не супрацьпастаўляць сябе ім і скаліць зубы з "новых беларускіх".

- За выкананьне камэрцыйных праектаў варта брацца неадкладна, як за напісаньне хоку пасьля азарэньня.

- Падаюць там, дзе сто разоў прайшлі, як і тонуць зазвычай вельмі добрыя плыўцы. Тое самае з багацьцем... Бядняк ня можа згубіць шмат грошай, хоць ён зусім не асьцярожны. Капітал — гэта найперш — сквапнасьць, асьцярожнасьць і плянамернасьць.

- Калі займаесься бізнэсам, разумееш: грошы, здабытыя вялікімі намаганьнямі, і грошы, прыдбаныя лёгка, роўныя ў цане, хоць з гэтым цяжка зьмірыцца.

- Чалавеку заможнаму даводзіцца ўвесь час асьцерагацца злодзеяў, бо людзі бедныя, калі губляюць месца працы, пачынаюць красьці, і думаюць, што ў багатага скрасьці лягчэй, хоць гэта й ня так.

- Нельга спазнаць іншых, не спазнаўшы сябе; так не заробіш грошы для чужога, не зарабіўшы для сябе, сваіх родных і блізкіх. У багатага шмат сваякоў, кампаньёнаў і няма сяброў.

- Калі ты сам лічыш усё заробленае чыстым і сумленным, дык лёгка пераносіш крыклівыя нараканьні, зайздросныя пагляды і злосныя выпады.

- Найгоршая хвіліна ў бізнэсовых справах надыходзіць тады, калі кампаньён кажа: "Я выходжу са справы і забіраю сваю долю!"

- Ведаючы ўласныя недахопы, значна хутчэй вучысься памнажаць капітал. Замест таго, каб выхваляцца здабыткамі, пачынаеш ганіць сябе прылюдна, чым выклікаеш спачуваньне й павагу.

- Калі зьбіраесься кіраваць сьветам ці хоць бы невялікім вытворчым працэсам, трэба ў першую чаргу быць аскетычным і беражлівым, а грошы, іх колькасьць і наяўнасьць будуць паказчыкам у працэсе.

- Досыць цяжка збалянсаваць жаданьні й магчымасьці. Жаданьняў заўсёды шмат, а грошай не стае. Але бываюць і такія часіны, калі нават дробныя жаданьні выпарваюцца. Пачынаеш задаваць сабе безадказнае пытаньне: "Ці варта жыць?" Грошы ў падобным стане страчваюць чароўнасьць і магутнасьць.

- Здаецца, зайздрасьць да тваіх капіталаў не павінна ўзьнікаць у людзей, якія маюць значна больш за цябе, але гэта адбудзецца толькі пры адной умове — людзі ня будуць ведаць, колькі ты маеш, і твой капітал не працячэ празь іхнія рахункі.

# ПАМІЖ ТУБЭРКУЛЁЗАМ

Турэмны дзёньнік

**Славамір Адамовіч**



Quomodo cantabo canticum Domini in terra aliena? Як нам сьпяваць песьню Божую на зямлі чужой? І сапраўды — як? Што да мяне, то я не змагу. Мяне ніколі асабліва й не цягнула ў далёкія краі, мне хапала таямніцаў тут. Ну, пабачыў я адзін раз Чорнае мора — не спадабалася: мэдузы, бераг белы не ад пены марской — ад выцьвілага на сонцы плястыку, шпрыцы аднаразовыя, прэзэрватывы... Чорнае мора я запомню назаўсёды зь іншае прычыны — на яго берагах я сустрэў маю балючую любоў. Яна была беларуска...

Як жа баліць тут, у грудзёх. А ты кажаш мне пра страхоцьці турмы. Страшна назіраць, як старэе твая жанчына (зьяўляюцца старэчыя плямы на скуры, выпадаюць валасы, выцьвітаюць вочы, некалі шэра-зялёныя...).

Замест "страшна" лепш сказаць "жахліва", бо першае — любімае слоўца тутэйшага прэзыдэнта. Садыстычная натура былога гэбэшніка, што тут зробіш. Клінічны выпадак, і таму патрабуе як найхутчэйшага хірургічнага ўмяшаньня.

Si tui oblivero, Patria... Тады навошта ўсё?

**1 студзеня (серада), 1997 год**

Раніца. Першы дзень новага году ў турме. Ноччу глядзелі тэлевізар, злаваліся моўчкі, моўчкі кожны мысьліў пра сваё. Зьлез быў па малой патрэбе, ды ледзь пасьпеў зрабіць "мокрую" справу — стала дрэнна, абсунуўся каля дзьвярэй, нагою патрапіўшы ў шлёмку зь недаедзенай баландзёрскай кашай.

Прагулку сёньня ізноў скарацілі. І вывадны ізноў у мой бок нешта вякнуў...

**12 студзеня (нядзеля)**

Ізноў у камэры №117. 10 сутак адбыў на кічы (у безваконным карцэры першага паста). Дзесяць сутак у тапках на гумовай падэшве; 16 гадзін на нагах, 8 г. неспакойнага дрымоцьця ў швэдры, кашулі сынтэтычнай і другім паўшарсьцяным швэдры, які быў мне замест майкі. Галаву акрываў ручнікам, перададзеным арганісткай яшчэ мінулай вясною. Гэта добра ратавала ад холаду. Тры разы карпусны нехта Славік перадаваў чыф, адзін раз пачаставаў бесьфільтровай цыгарэтай, "астрынай". Божа, колькі было радасьці, як сагравала такая ўвага! Чыф заварвалі арыштанты з бліжэйшых да карцэру камэраў.

У суседняй кічы тарнаваўся малады зэк па мянушцы "Жаніх". Ён атрымаў 15 сутак за тое, што парэзаў сябе, ці, як гэта называецца панашаму, — ускрыўся. Ён ускрыўся, а яго закрылі. У халодную. А ўвогуле сьвеціць яму гадкоў дзясятак — зарэзаў госьця на ўласным вясельлі. І так бывае. Тым больш, што "жанішок" ужо сядзеў на цэнтрале, калі быў яшчэ непаўналетні. Я прыкалоў (расказаў, значыць) яму некалькі момантаў за сваё жыцьцё, пры гэтым абнадзейваючы бедалагу, што ніколі ня позна пачаць пісаць уласнае жыцьцё нанова, іначай. "Што я бачыў? Я нічога ня бачыў у гэтым сьвеце", — казаў ён мне праз напалову прабітую ў сьцяне кабуру (адтуліну). І ў голасе чуліся сьлёзы. А я... я адчуваў сябе вінаватым, бо ў мяне застаецца надзея на свабоду, на тое, што там, па той бок кратаў, у мяне сапраўды ёсьць сябры: жанчыны, якія чакаюць маёй любові; невядомыя мне людзі, за якіх я мушу ўзяць і гэтую кічу, і цэнтрал, і зону. Я — багаты! Я, бадай, як непарушны паганскі стод, дык чаму ж мне не пасядзець... Гардыня? Няхай! Прынамсі пакуль што, гасьцюючы ўва мне, яна дапамагае стаяць, стаяць з рукамі "за спину", але ня ўгору...

Гэтым разам у мяне не было на кічы ні стрыжня, ні нават туалетнай паперы, на якой я нешта запісваў, калі браў свае першыя пяць сутак у лістападзе-сьнежні 96-га. Дзеля асабістай гігіены прыйшлося скарыстоўваць паперу з-пад кулькоў, у якіх сядзельцам кічы выдаюць цукар. І папера гэтая — старонкі кніг мінулай эпохі з тэкстамі па-беларуску й па-расейску. Хутчэй за ўсё я быў першым і апошнім чытачом гэтых адцэнзураваных пісьмёнаў — пра Леніна, пра Розу Люксэмбург і паразу Вэймарскай рэспублікі, пра інтрыжкі ангельскай публікі і бунты парыскай чэлядзі...

16 гадзін адбыць на нагах ня так проста, як здаецца. А на жалезным седале, умураваным у сьцяну, ня надта пасядзіш. На алюміневай шлёмцы таксама няўтульна. Таму прыйшлося, прыйшлося грашыць.

Сутачная норма хлеба сядзельца — паўбохана. Гэтага хапае, нават застаецца. Рэшткам я знайшоў прымяненьне — дзе мякішам, дзе скарынкамі высьцяліў паверхню цумантовай тумбы, каб можна было сядзець. Так і перабіваўся: паўгадзіны паходзіш, хвілін дваццаць пасядзіш, дрэмлючы пра сваё. Хлеб ратаваў, мікшыруючы холад каменю, насычаў і захоўваў здароўе.

Закінулі мяне ў непрыбраны карцэр, дзе да мяне сядзела жанчына, пра што выразна сьведчылі "рэчавыя доказы": заколка ды майткі, якія дэманстратыўна бялелі на кучы сьмецьця. Прыйшлося выграбаць гэтыя атрыбуты фэміны пад сальныя заўвагі вертухая.

Забіраючы мяне з кічы пасьля адсідкі, ужо іншы "работнічак" цэнтралу з падманна-абураным воклічам заўважыў: "Смотрите, на хлебе сидел! А ещё писатель". Што ж, таварыш, я ведаю, што вы з "братвой" у пагонах з палёгкай уздыхнулі б, каб мяне з гэтага карцэру вынесьлі ўперад нагамі. Але са мной такі нумар ня пройдзе! "Я буду жыць", як пісаў "пясьняр" Купала, але не таму, што мужык я, а з тае прычыны, што мне ў падлу падыхаць вам на радасьць. Са мной мая "ружачка" зялёнага шкла. Прэч з дарогі!..

За што ж я заляцеў на 10 сутак? Ды якаясьці сіла падарвала мяне 1-га студзеня пасьля абеду. Падалося, што на прадоле некага б'юць. Я ўсхапіўся і да дзьвярэй, пачаў вэрбальна пратэставаць, мякка кажучы. Тут як тут — карпусны, "почему глазок закрываю?" Нібы чакалі маёй "успышкі" — тут жа выклікалі рэзэрв. І вось ужо мяне выхапілі з "хаты", штурхаюць, спрабуюць лупянуць, ды баяцца, стрымліваюцца, але штурхаюць, "руки на стену", вырвалі



Карліс Скалбэ

# КАЗКА ПРА ВОЛАТА

Адзін хлапец — Бог ведае як гэта здарылася — згубіў сваю маладосьць. Поўны сірата, ён хадзіў сарамяжлівы, сумны, і дзе б ні схіляў галаву — ці ў абед на мяжы поля, ці ў начлегу, — на ўсіх кветках зіхацелі сьлёзы.

Папраўдзе сказаць, маладых людзей у той краіне было шмат, але ні ў кога зь іх не было нармальнай маладосьці. Уладарыў там чужы кароль — стары, гмырлівы і злы. Усіх ёнператварыў у рабоў. Нат галіны дрэваў там не ўздымаліся высока, а, панура схіляючыся, сьпявалі ветру старую песьню. Народу жылося цяжка. Маладыя ня ведалі, што яны маладыя. Старыя не маглі дачакацца сьмерці. Па гасьцінцах разьяжджала залатая карэта караля. Народ спалохана туліўся да ўзбочынаў. Шэрай, шэрай была ягоная сьцежка. Ён мог знайсьці спакой толькі сярод палявых межаў. Араты ў абед клаў галаву на дзірван і давяраў зямлі свае жахі. Крычаць да нябёсаў ніхто ўжо не рашаўся, бо кароль мог пачуць. Нат паветра было здрадніцкім, і толькі трава яшчэ даверліва хавала ўстхненьні.

Штовечар ідучы дадому з працы, хлапец сядаў каля крыніцы і плакаў.

Аднойчы выйшла з крыніцы чараўніца. "Чаму ты плачаш? —спыталася яна, надзьмуўшы вусны. — Вада маёй крыніцы ўжо стала горкай ад тваіх сьлёз".

"Ах, я сам ня ведаю чаму! У мяне такое адчуваньне, нібыта я нешта згубіў, нібыта згубіў самога сябе," — уздыхнуў хлапец.

"Хадзі са мной," — сказала чараўніца і шпарка пайшла перад ім па зьвілкім беразе рачулкі, цягнучы за сабой, як вэлюм, вечаровы туман. Яна прывяла хлапца на старое замчышча з парослымі травой лініямі валоў.

"Капай гэты пагорак. Але калі што знойдзеш, — нізавошта не аддавай каралю!"

Добра. Хлапец пачаў капаць. Капае адну ноч — выкапаў старую падкову. Капае другую ноч — выкапаў старую дзіду. Капае трэцюю ноч — выкапаў волата. Агаломшаны хлапец глядзіць і ня ведае, што рабіць, ці закідаць усё пяском, ці расказаць каралю. Абапёршыся на рыдлёўку і дрыжучы, хлапец бачыць — вочы волата пачынаюць блішчэць нябачаным бляскам, вусны пачынаюць усьміхацца і гаварыць.

"Дзякуй, хлапчук, што ты мяне адкапаў. Даўно я ляжу і чакаю, калі мяне хто-небудзь абудзіць. Толькі сьвіньні рыюць пагорак. Рыхтуйся, я дам табе панцыр волата і каня волата. Табе належыць вызваліць краіну ад улады злога караля". Дзіва, хлапцу пачынае падабацца гэты суровы твар і ўпэўнены голас.

"Але ж як я гэта зраблю? У караля шмат палкоў, усе яго слухаюцца," — сумняваецца хлапец.

"Не кажы нічога, я табе дапамагу". Волат падымаецца на ногі і ўдарае хлапца па плячы. "Вазьмі гэтую дзіду і стукні ёю тры разы аб дуб, што на мяжы поля. Тады ты набудзеш усё, што патрэбна мужчыну".

Хлапец адразу ўзяў дзіду і зрабіў, як было сказана. З дубу выскачыў конь волата; у яго на хрыбце — панцыр волата, рыцарскі шалом і меч. Хлапец апрануў панцыр волата, падперазаў меч, і вось ён ваяр. Вось скача ён па самай сярэдзіне шляху на каралеўскі замак. Ён ударае мячом у браму замка і выклікае караля на бойку. Зьбягаюцца палкі і хочуць захапіць яго ў палон, а хлапец сячэ іх, як бацьвіньне, і кідае шаломы ў кучу. Кароль загадвае дудзець у баявую трубу, і вось падыходзяць палкі, як чорная хмара. Хлапец ужо спалохаўся і хоча павярнуць каня. Але азіраецца — за ім скача на высокім кані волат і ківае галавой. "Наперад!" — чуе хлапец і кідаецца, нібы насустрач начы, у самую гушчэчу ворагаў. Ён сячэ направа і налева, і волат змагаецца побач зь ім. Ворагі ўцякаюць, злы кароль зрынуты. Глядзіць хлапец — дзе волат? Яго няма. Ён шукае яго на полі сярод палеглых — няма. Засумаваўшы, хлапец скача назад да пагорку, бачыць: волат ляжыць, дзе й раней. Толькі ягоныя вочы не блішчаць, вусны не прамаўляюць. Хлапец падымае яго на каня і вязе ў каралеўскі замак. Загадвае паставіць яго ў троннай залі. Там ён стаіць і, калі малады кароль праходзіць міма, усьміхаецца прыхавана і ціха сваімі сьціснутымі вуснамі. Але вызвалены народ верыць, што ён загаворыць зноў, калі бацькаўшчыне будзе пагражаць небясьпека.

*1921 г.*

Пераклаў з латыскай Валеры Буйвал

**Карліс Скалбэ** (1879-1945), латыскі пісьменьнік і паэт. Аўтар паэтычных зборнікаў "Песьні вязьня", "Калі красуюць яблыні", "Хвалі Даўгавы", "Вечаровы агонь", а таксама шматлікіх казак.



# І ПРАНЦАМІ

гузік з чорнай кашулі.

Адзін здаровы "бугай-рэзэрвіст" усё стукаў мяне кулачынай зьверху па галаве. Штурхалі ўсю дарогу, пакуль вялі да "хазяіна", Міхеенкі Фёдара Карпавіча. Быў там і опэр Бабарыкін. Начальніку ўстановы я ня стаў нічога тлумачыць. А яму ў сваю чаргу хапіла кароткага: "Десять суток!"

І вось я паехаў, адбыў і вярнуўся. "Хату" 64 раскідалі (вечарам 11-га стаяла пустая). Хацелі пасьля карцэру пакінуць мяне ў х. 56, куды перавялі і Гешу, але сядзельцы не захацелі сёмага. Праўда, сустрэлі мяне пасьля кічы палюдзку: далі пад'есьці, а на дарогу ў іншую "хату" справілі пачак чаю, жменю растваральнай зупы, у брыкеціках, некалькі пачкаў цыгарэт, Нядрэнна сядзяць злодзеі ў 56-й — з каляровым "Шарпам"... Такім чынам, з Гешам (Дронікам) я разьвітаўся.

У 117-й атмасфэра пацяплела, кантынгент памаладзеў. Сядзіць малады талачынскі цыган, чытаць-пісаць ня ўмее, але дзьве фіксы сьпераду — жоўтага мэталу. Кажа, што зусім яны не залатыя. Гніюць ногі ў бедалагі, што ледзь ступае.

... Памыў сяк-так сваё рызьзё пасьля кічы. Заўтра, 13-га, суд, працяг працэсу. У "СБ" за 11.07.97 інфармацыя пра нас: "... считающий себя поэтом Славомир Адамович...". На вуліцы мароз. Кажуць, падкідвае сьняжку.

**13 студзеня (панядзелак)**

У боксе аблсуда. З поўным страўнікам, што не зусім камфортна.

... Ну вось і ўсё на сёньня. Паседжаньне адкладзенае на заўтра. У Плешчанкі інфаркт. Зьмешчаны мой "падзельнік" у 4-ю віцебскую бальніцу. За мяне ўступіўся расейскі PEN-цэнтар. Адвакат паказаў адпаведную паперу.

Цяпер прыйдзецца сядзець у боксе да вечара, пакуль ня скончыцца паседжаньне па справе "гераіншчыкаў". І сядзець без абеду. Што ж, магчыма, ЦЯПЕР адпусьцяць пад падпіску аб нявыезьдзе? А калі не, то свае 35 прыйдзецца сустрэць на цэнтрале. Каравульныя міліцыянты — тэрміновая служба —заказалі верш "для дзяўчат з днём нараджэньня і на агульную тэму". Вось гэтыя рыфмаваньні:

*Віншую з днём нараджэньня,*
*з парою зьяўленьня на сьвет*
*дзяўчыну майго захапленьня,*
*і шлю ёй гарачы "прывет"...*

Абед. "Байцы" рубаюць салдацкую кашу. Хоць бы хто дадумаўся кавалак хлеба прапанаваць. А верш напішы... Эх, увага людзкая!.. Зрэшты, не, дзеля справядлівасьці трэба заўважыць, што быў, быў голас, які выказаў прапанову даць паэту хоць шклянку кампоту. Але не пачула яго каравульнае начальства. Так што зь людзкасьцю ў нашых людзей усё нармальна — праблема ў начальстве. І ў адсутнасьці ініцыятывы, бо, як сьцьвярджае мудрасьць "старэйшага брата", ИНИЦИАТИВА НАКАЗУЕМА.

Вечар. У камэры цэнтрала. Па радыё "разоряется" ППРБ. Шастова ("Інжынэра") адпусьцілі пад падпіску, разам зь ім "пайшоў" і тэлевізар. Мужыкі робяць торт. "Фелчар" Захаравіч дапамог сустрэцца з мамаю. Маліноўскія з Алешак перадаюць мне прывітаньне. Незнаёмыя людзі дапамагаюць маме грашыма. Дзякуй жа ім!



Міша з Шаркаўшчыны, у свой час — сябра Фронту, 101-й артыкул КК. Шкада. Наш чалавек.

Верш "Убей Адамовича" братве не спадабаўся, абураліся моцна. Наіўныя людзі, і нічога ім не растлумачыш. Усё імі прымаецца за чыстую манэту.

**14 студзеня (аўторак)**

Ізноў у боксе аблсуда, ізноў ужо ў клетцы, што ў зале пасяджэньняў... А пракалоць губу ня так проста — баліць. Як абрыдлі міліцэйскія фізіі!

Позны вечар. Над дальняком (унітазам) расквэцаў бруд на галаве — мыўся, бо з-за працэсу прапусьціў чарговую "лазьню", памыўку ў душы. Самае цікавае было ў судзе. Адвакат зачытаў зварот расейскага PEN-цэнтру на адрас суда з патрабаваньнем спыніць распачатую супраць мяне справу.

**15 студзеня (серада)**

Учора, пасьля таго, як зварот расейскага PEN-цэнтру быў далучаны да чатырох тамоў справы №182, а хадайніцтва адваката пра падпіску аб нявыезьдзе ізноў адхілілі, судзьдзя Гурко падыйшоў да клеткі і некалькі разоў перапытаў у мяне "чэснага мужчынскага слова", што я не ўцяку, калі ён мяне адпусьціць пад падпіску. Я паабяцаў, вядома. Цяпер буду чакаць чарговага паседжаньня суда, як манкі нябеснай.

"Чачэнец" падараваў "марачку" — абразок, намаляваны алоўкам і стрыжнем, з Хрыстом, анёлкамі і купаламі. "На память Славомиру о днях, проведенных в этих стенах". Я адказаў маладому зэку вершам, якім той застаўся задаволены.

*Я вгрызаюсь в эту землю,*
*улыбаясь в это небо,*
*бесконечно неприемля*
*факт разбрасыванья хлебом.*

*Я условен и реален,*
*зол, убийственен и кроток,*
*пребываю на централе,*
*огражденный от кокоток.*

*Я порой себе не нравлюсь,*
*а порой себя жалею,*
*но я точно не исправлюсь,*
*о любви мечты лелея.*

*Потому что "исправленье" —*
*это в рабство путь ближайший,*
*пусть читает наставленья*
*власть продажная дрожащим.*

*Я вгрызаюсь в эту почву,*
*улыбаюсь конвоирам,*
*я готов поставить точку,*
*распрощавшись с внешним миром.*

*Но пока, пожалуй, рано,*
*я еще пожить обязан,*
*пусть в тюрьме, грязно и странно,*
*пусть неволею повязан.*

*Я еще вернусь, пожалуй,*
*в беспорядочность свободы,*
*превращая мести жало*
*в гордо прожитые годы.*

*19 студзеня (нядзеля)*

Раніца, дзевяць гадзін. Брэх сабак за сьцяной. У камэры незвычайна ціха, толькі час ад часу прадольныя ўключаюць радыё на ўсю моц. "Калегі" запрасілі на чыф. Ідылія, дальбог!

Два "дзяды" сярод нас — аднаму 41, другому 46. Другі выглядае на ўсе 65-70. А ў яго дачка 15-ці гадоў. Як самахоць можна давесьці сябе да хуткага фізычнага распаду.

Прадчуваньне свабоды... Няўжо праз тыдзень-другі я змагу быць на волі? Ня думаю, што судзьдзя абнадзеіў дзеля понту. Але ж і на ізьмену пасадзіў, халера.

Хлопцы перапісваюць наш знакаміты верш. Абарвалася вяроўчына, на якой была разьвешаная вопратка для прасушкі. Мая чорная рубашэнцыя — Валін падарунак — зваліліся проста на парашу. Прыйшлося выкінуць у сьметніцу — паводле тутэйшага закону. Заўтра яе разам са сьмецьцем загрузяць у "камаз", магчыма, баландзёр адшманае яе і будзе насіць аж да свайго вызваленьня. Турэмная абслуга зь ліку зэкаў жыве па іншых правілах.

20-га, вечар. Сыноптыкі ізноў абяцаюць маразы. Прыходзяць і адбываюць этапы — аршанскі, полацкі, менскі, друйскі...

Бясконцасьць субстанцыі і абмежаванасьць формы.

Якія дзікія і ненажэрныя сустракаюцца тут інфузорыі. Надзвычай рэдкія экзэмпляры паводле сваёй агіднасьці! Лёха-парафін здаў зьмену. Ідзі, Лёха, глыні два па сто за маё здароўе.

**21 студзеня (аўторак)**

*О тепле января*
*Я пишу, как тепло января*
*согревает мне грудь,*
*как тюремная сырость безжалостно гложет*
*суставы,*
*как в тепле января*
*снятся мне*
*своенравные травы*
*и дождями умытый в страну безохранную*
*путь.*

Два яблычкі, перададзеныя мамай, ляжаць на падваконьні ў місачцы і зваблiваюць, наганяюць апэтыт, і два памаранчы... Мама, мама, нарэшце я знайшоў цябе!..

Адліга спала, падмарожвае. Памянялі кнігі. А там, там бушуе вясна, хлярафілавы вэктар свабоды распластаўся паводле Разанава ў 360... У нас жа — тубэркулёз...

*Працяг будзе*

Лявон Вольскі



# СЯРГЕЙ І

Апавяданьне

Яны сустрэліся на эскалятары, у мэтро. Дакладней, на двух эскалятарах, якія рухаліся паралельна: адзін — угару, другі — уніз (як гэта заўжды прынята ў мэтрапалітэне). Такім чынам, першы (Сяржук) рушыў угару, другі (Сяргей) кіраваўся ўніз, да цягнікоў. Сяржук заўважыў Сяргея й пачаў актыўна жэстыкуляваць, крычаць — рабіць усё, каб прыцягнуць да сябе Сяргееву ўвагу. Гэта атрымалася, і цераз колькі хвілінаў Сяргей зь Сержуком стаялі ля выхаду з мэтро ды ўспаміналі мінулыя часы.

Калісьці, у глыбокім дзяцінстве, Сяргей ды Сяржук былі лепшымі сябрамі. Яны супольна здымалі аматарскія фільмы на 8-мілімэровую стужку, разам з бацькамі адпачывалі ў Крыме, хадзілі ў грыбы, пісалі дзіцячыя апавяданьні й вершы, выдавалі газэту, наведвалі ізастудыю, зьбіралі маркі, манэты, налепкі ад запалачных пачкаў, укладкі ў жуйкі. Яшчэ Сяргей ды Сяржук вынайшлі цікавую забаву: яны выходзілі ў горад, сядалі на два аўтобусы (тралейбусы), пажадана, невядомага маршруту, а потым, увечары, сустракаліся й распавядалі адзін аднаму, дзе яны былі, што бачылі, і якія прыгоды іх напаткалі.

— А ты памятаеш, Сяржук, як я паехаў на 25-м аўтобусе, апынуўся недзе за горадам, а потым цэлы дзень ня мог выбрацца?

— А памятаеш, Сяргей, як я ўзімку паехаў на 37-м, пацягнуўся паўз поле ды залез у ваду па калена? Потым тыдзень хварэў...

— А як 5-ы аўтобус патрапіў у аварыю?

— А як 10-ы зламаўся на маршруце?

— А як мяне злавіў кантралёр?

— А як мяне пабілі хуліганы?

Так Сяргей ды Сяржук успаміналі свае дзіцячыя прыгоды. І раптам Сяргей сказаў:

— А чаму б нам з табою, Сяржук, зараз не пагуляць у аўтобусна-тралейбусныя падарожжы? Ці ты сёньня заняты?

— У мяне былі некаторыя справы, — азваўся Сяржук, — але дзеля такой нагоды іх можна адкласьці.

— То давай абярэм маршруты ды адразу й паедзем.

— А сустрэнемся аб 11-й вечара.

— На пляцы Свабоды.

— Згодны.

— Я абіраю аўтобус №113, — сказаў Сяржук.

— Я абіраю тралейбус №43, — сказаў Сяргей.

І яны разышліся ў розныя бакі.

СЯРЖУК

Ён ехаў у 113-м аўтобусе. Падарожжа прыпала на гадзіну пік, і аўтобус быў перапоўнены. Палову кантынгенту складалі рабочыя, якія ехалі са зьмены, другую палову — пэнсіянэры, якія рабілі ў горадзе танныя закупы, а цяпер вярталіся ў свае аддаленыя ад цэнтру раёны. Сяржук стаяў, зацісьнуты паміж брунатнатварай срэбназубай бабкай ды п'янаватым рабочым. Рабочы дыхаў акурат у твар Сержуку, а бабуля размаўляла з пэнсіянэрамі пра нялёгкую долю паджылых людзей. Сяржук спрабаваў абстрагавацца ад аўтобусных рэаліяў і прыгадваў свае дзіцячыя транспартныя вандроўкі. Ці то раней напраўду рабочыя меней пілі, а бабкі ня езьдзілі ў транспарце ў гэткіх колькасьцях, ці Сяржук папросту ідэалізаваў мінулыя часы, але цяпер, чамусьці, ён адчуваў сябе ў траспарце вельмі няўтульна. На чарговым прыпынку дзьверы аўтобуса ледзь расчыніліся, і Сяржук пачуў галасы звонку: "Мушчына, прайдзіце нямножка! Ну, давайце, ішчо на адnаво чалавека!" З боку дзьвярэй паднаціснулі, і Сяржук утыкнуўся носам у штучнафутравы, прапахлы тытунём ды нясьвежасьцю каўнер нецьвярозага рабочага.

СЯРГЕЙ

Тралейбус быў паўпусты, новы. Ён зьзяў чыстымі вокнамі, сьвежай нітрафарбай, дасканалымі шыльдамі "уваход", "выхад", рухаўся мякка. Сяргей сядзеў у мяккім утульным фатэлі й чытаў газэту, якую ў шырокіх колах называлі "элітарнай". Зрэшты, амаль што ўсе пасажыры чыталі розныя пэрыядычныя выданьні альбо мастацкую літаратуру. За вакном мільгалі вітрыны дарагіх крамаў, рэклямовыя шчыты й нэонавыя надпісы. Сяргей адарваўся ад элітарнае газэты, зірнуў у вакно й падумаў: што гэта за раён? Чаму я тут ніколі ня быў? Сяргей вырашыў выйсьці праз пару прыпынкаў і зноўку паглыбіўся ў складанае для ўспрыманьня апавяданьне маладога, але дастаткова ўпэўненага аўтара.

СЯРЖУК

Нарэшце, ён здолеў выйсьці з аўтобуса. На горад насунуліся цёмна-шэрыя прыцемкі. Сяржук ішоў уздоўж доўгага заводзкага паркану. З тога боку паркану даносіўся лёскат, грукат, неразборлівыя крыкі рабочых. Лішне казаць, што Сяржук упершыню апынуўся ў гэтым раёне. На працягу апошніх пяці гадоў ён вельмі рэдка наведваў гарадзкія ўскрайкі альбо так званыя "спальныя раёны". Сержуку хацелася ўзнавіць тое дзіцячае пачуцьцё чаканьня чагосьці незвычайнага, адчуваньне, што зараз з табою адбудзецца нешта чароўнае, недаступнае астатнім. Але, відаць, тыя ўражаньні й эмоцыі сплылі зь мінулымі гадамі. І цяпер Сяржук папросту бачыў сябе, які самотна йдзе ўздоўж бэтоннага заводзкага парку, у шэрых прыцемках, пад мокрым сьнегам, які хутка раставаў і ў выглядзе вады сьцякаў зь сержуковага капелюша пры кожным неасьцярожным руху галавы. Неяк пацїху Сержуком апанавала раздражненьне: на фіга ўсё гэта? Што мінула, тое мінула, яго ня вернеш. Тым болей, ня вернеш гэткімі штучнымі мэтадамі: маўляў, давай зробім, як тады... Але ж цяпер зусім ня так, як тады! І ніколі ўжо ня будзе, як тады.

— Слыш, мужык, закурыць ня будзет? — раптам пачуў Сяржук, і зразумеў: пачынаюцца прыгоды.

— Я вазьму дзве, — канстатаваў невядомы. Палова ліхтароў на гэтай вуліцы не працавалі й Сяржук ня мог разгледзець твар гэтага чалавека. Адно кідалася ў вочы мокрая шапка з футра невядомага зьвера. Раптам да іх падыйшлі яшчэ два чалавекі ў гэткіх жа мокрых футравых шапках.

— Ты адкудава? — запытаўся ў Сержука адзін зь іх.

— У якім сэнсе? — пацягнуў час Сяржук.

— З якога раёну? — удакладніў трэці.

— Я тут працую недалёка, — схлусіў Сяржук.

— Інжынер, што лі? — запытаўся першы.

— Ды так... Чарцяжы розныя чарчу.

— А-а, ясна. Так на эціх чарцяжы ж не пражывёш цяпер. На што жывёш, шляпа?

— Кручуся, як магу, — працягваў хлусіць Сяржук.

— Ну, я сматру, на сігарэты харошыя табе хватае, —пагрозьліва, як падалося Сержуку, сказаў адзін з шапачнікаў.

— Гэта я проста сёньня халтурку зрабіў, — чарговы раз схлусіў Сяржук. — Звычайна "Астру" палю.

— Піць будзеш, шляпа? — раптам запытаўся першы.



Сяржук зразумеў, што адмаўляцца не выпадае.

СЯРГЕЙ

Ён выйшаў з утульнага 43-га й пакрочыў па вуліцы, асьветленай ліхтарамі ды нэонам. Надвор'е спрыяла шпацырам: невялікі марозік, градусы са два, сьнег бліскае пад ліхтарным сьвятлом. На вуліцы было даволі шмат людзей: ішлі перадкалядныя распродажы, кошты ўпалі да сьмешных лічбаў. З кожнае вітрыны флюарэсцэнтныя літары крычалі: РАСПРОДАЖ!!! РАСПРОДАЖ!!! Сяргей не ўтрымаўся ды купіў новы багемны клятчасты пінжак ды стыльныя чаравікі. Усё гэта каштавала ўдвая таньней, чымся ўлетку. Усё ж ёсьць пэўная карысьць ад адраджэньня дзіцячых гульняў, — падумаў Сяргей. — Наўрад ці ўдалося б сёньня выбрацца ў горад, каб ня гэтая сустрэча зь Сержуком. Дарэчы, сябручок ня вельмі добра выглядае. А яму ж яшчэ, як і мне, толькі 30. Відаць, жыцьцё ня склалася. Шкада. Быў даволі здольны хлопчык у дзяцінстве.

Сяргей убачыў невялікі, але ўтульны бар. Кубачак кавы й кілішак каньяку не перашкодзяць, — вырашыў ён ды зайшоў. Мэлядыйна прагучаў званочак над дзьвярыма.

СЯРЖУК

— Знойдзецца закурыць, — азваўся ён і выняў з кішэні пачак "L&M".

СЯРГЕЙ

У бары было паўцёмна й цёпла. Пахла кавай, добрым тытунём ды печывам. Сяргей сеў за столік, і перад ім адразу зьявіўся афіцыянт (відаць, пачуў званочак над дзьвярыма). Сяргей замовіў каву й 50 грамаў каньяку. Гэта ўсё было вельмі хутка прынесена. Сяргей сеў зручней і павольна пацягваў каву й каньяк і паліў доўгую цыгарэту. Зноў пачуўся гук званочка, і ў бар зайшла вясёлая кампанія — дзьве якравыя жанчыны ў суправаджэньні бледнага маладога чалавека. Адна з жанчынаў была плятынавай бляндынкай, другая — кардынальнай брунэткай. Малады чалавек вызначаўся смокінгам, асьляпляльна белай кашуляй, гальштукам-мятлікам ды тонкай шчотачкай вусаў.

— Тут вольна? — запытаўся малады чалавек у Сяргея.

— Так, калі ласка, — азваўся той ды падумаў: а я апрануты ня горай за яго. Гэтая думка, а таксама кава й каньяк прыемна сагрэлі Сяргееву душу.

СЯРЖУК

Яны выпівалі гарэлку з рыльца на чатырох у нейкім брудным двары ля квадратнае будкі зь белае цэглы. Раней у гэтых будках захоўвалі рознае прыбіральніцкае начыньне, — раптам згадаў Сяржук. — У нашым двары таксама была такая будка. Там стаяла памяло, вядро, валяліся анучы. А яшчэ там быў суседаў бліскучы чорны матацыкл.

— Твая очарадзь, шляпа, — сказаў адзін з шапачнікаў і працягнуў бутэльку.

Сержуку заўсёды зь цяжкасьцю давалася выпіваньне з рыльца. У звычайных абставінах ён бы папросту адмовіўся. Але ў гэтай сытуацыі адмаўляцца не выпадала. Сяржук заплюшчыў вочы, паднес рыльца да вуснаў і некалькі разоў каўтнуў пякучую вадкасьць. Пасьля гэтага ён з хвіліну сядзеў аслупянелы, змагаючыся зь мярзотна-ванітнай хваляй, што падкаціла да горла.

— Што, не прывык з гарла? — засьмяяўся адзін з новых сержуковых прыяцеляў.

І Сяржук, і ягоныя сабутэльнікі заўважна п'янелі. Пайшлі анэкдоты пра новых рускіх, пра цешчу, пра мянтоў.

— Слышыш, шляпа, а што ты ўсё маўчыш? — раптам запытаў у Сержука адзін зь ягоных новых знаёмцаў. — Можа, табе што-нібудзь ня нравіцца?

СЯРГЕЙ

— А чым вы займаецеся? — запыталася брунэтка.

— Я музыкант, — каротка адказаў Сяргей.

— А я вас бачыла па тэлевізары! — закрычала бляндынка. — Вы граеце на гітары й пяеце.

Бледны малады чалавек паморшчыўся.

— Можа быць, яшчэ каньячку? — прапанаваў Сяргей.

— З задавальненьнем, — азвалася брунэтка.

Афіцыянт прынес каньяк.

— За творчасьць, — асьляпляльна ўсьміхнулася брунэтка.

Сяргей заўважыў, што бледны малады чалавек ня выпіў каньяк, у адрозьненьне ад сваіх сябровак.

— Распавядзіце нам што-небудзь цікавае, — запатрабавала бляндынка.

Сяргей заўсёды добра пачуваўся ў любых кумпаніях. Ён умеў быць цэнтрам увагі, трапна жартаваць, дэманстраваць свой багаты інтэлект. Праз дзесяць хвілінаў бляндынка й брунэтка неадрыўна слухалі ягоную красамоўную плынь, сьмяяліся, калі ён жартаваў; бледны малады чалавек паліў цыгарэту за цыгарэтай.

— Даруйце, але мне трэба йсьці, — нарэшце сказаў ён. — Неадкладныя справы.

Дамы не зьвярнулі на ягонае зьнікненьне ніякае ўвагі.

СЯРЖУК

— І вабшчэ, што-та ты мне ня нравісься, — пачаў ён.

Сяржук зразумеў, што насьпявае канфлікт.

— Ды вы што, мужыкі? Усё ж нармальна. Нармальна выпіваем, што яшчэ трэба?

— Я табе дам "нармальна", — прарычаў той, хто прасіў у Сержука цыгарэту.

У цемры Сяржук ня здолеў ухіліцца ад удару ў твар. Ён зваліўся ў брудную калюгу. П'яныя прыяцелі пачалі біць яго нагамі. Сяржук намацаў пад рукою пустую бутэльку.

— Ну, што, хваціць зь яго? — задыхаючыся, запытаўся ў сяброў адзін з шапачнікаў.

— Дастатачна, — сказаў другі.

Сяржук ускочыў ды ўдарыў пустой бутэлькай па шапцы бліжэйшага прыяцеля.

Бутэлька пабілася, але прыяцель застаўся на нагах.

— Ну, шляпа, ты даёш, — зьдзівіўся ён.

— Не падыходзь, бо папішу! — зароў Сяржук.

— Я табе папішу, прахрыпеў шапачнік і выняў з кішэні нож з доўгім бліскучым лязом.

Нічоганькі сабе прыгоды, — падумаў Сяржук.

Юры Гумянюк

# МАСКІ ДЭМІУРГА



Беспрытульныя думкі блукаюць недзе ў мінулым. Успаміны нараджаюць салёнае мора пачуцьцяў. Апошнія жаданьні зьдзіўляюць кожнага чалавека сваёю дваістасьцю. Гэткая дваістасьць і ёсьць салодкая атрута для звычайных людзей.

Прыкудлівы трохкутнік: успаміны — пачуцьці — жаданьні. Цяжка вызначыць першаснае. Можна адно да бясконцых дрыжыкаў у каленках зьмяняць канфігурацыі гэтых паняцьцяў. Можна забыцца й паўтараць адно сакральныя словы, пакуль за вакном размыты ляндшафт ня зьнікне пад покрывам ночы. Што тады?

Адлюстраваньне зьменіцца ад бляску ў самотных вачох. Дыямэнтавая сьлязінка ўпадзе на лякаваны стол. Вось знакамітая Юдэя, Ідумэя, Самарыя, Пэрэя. Другая сьлязінка падае побач. Вось табе й Галілейскае Возера. Асадка, бы Боская Лёска, суадносьвае дзьве празрыстыя кроплі. Танюсенькая лінія спаміж імі ёсьць рака Ярдан. А навокал — сусьветы.

Эпістолі колеру пакарыстанае бялізны захоўваюць свайго адрасата. Алоўкі, кнігі, паперы, слоўнікі, сшыткі, часапісы, электрычная лямпа ды іншыя прадметы побыту аздабляюць зямную паверхню. Міталягізацыя рэчаіснасьці, як нешта пазамежнае, прысутнічае адно ўнутры. Звонку — усё звычайнае. Але вочы заплюшчыш, намацаеш вазу і паплывеш у ледзяной вадзе Паўночнага Акіяну. Там гаспадарыць Пані Зіма.

А пачуцьці — зьменлівыя, бы надвор'е. Ад іх адно горача, сьпякотна. Але ж яны й вільготныя. Лягічная выснова — пачуцьці маюць трапікальны радавод. Успаміны ж — нябачныя ставы, рэкі, акіяны. Калі панурысься ў цёплую вадкасьць — пачнеш спакваля рассычацца, губляць уласную

# Сяржук

СЯРГЕЙ

— Можа быць, варта зьмяніць месца? — прапанаваў ён жанчынам. — Не сядзець жа ўвесь вечар у гэтым бары.

— Якраз зараз нашыя знаёмыя ладзяць імпрэзу. Можна пад'ехаць да іх, — сказала бляндынка.

Праз колькі хвілінаў яны апынуліся ў прасторным двухпавярховым будынку. І на першым, і на другім паверсе гучала музыка, лунаў цыгарэтны дым. Ва ўсіх пакоях было шмат людзей. Яны актыўна (пасыўна) размаўлялі, пілі віно, каньяк, гарэлку, трункі. Хтосьці танчыў, хтосьці абмяркоўваў якасьці твораў айчынных ды замежных мастакоў (лішне казаць, што гэтых твораў тут было даволі шмат).

Сяргея пазнаёмілі з гаспадаром — хоць маладым, але ўжо лысаватым чалавекам.

— А я вас ведаю, — сказаў гаспадар Сяргею. — У мяне нават ёсьць касэта з вашай музыкай. Між іншым, вельмі прыстойная якасьць. Для нашай краіны гэта рэдкасьць.

— Дзякую, — адказаў Сяржук. — Мне, напраўду, вельмі прыемна.

— Між іншым, — працягваў гаспадар, — я заўтра еду ў Францыю. Я там маю некаторых знаёмых у галіне шоў-бізнэсу. Калі хочаце, магу паказаць вашыя запісы.

— Я вам вельмі ўдзячны, — сказаў Сяргей. — Якраз я маю з сабой якасны запіс.

— Добра. Я абяцаю паразмаўляць з маімі знаёмымі.

СЯРЖУК

Ён бег па цёмнай вуліцы. Па счарнелым шурпатым лёдзе, па калюжынах. Час ад часу ён падаў, але адразу ж падхопліваўся й зноў бег. Яго перасьледавалі нядаўнія прыяцелі. Перасьледавалі з крыкамі й пагрозамі. Зрэшты, яны таксама пэрыядычна падалі ў брудныя калюжыны, але ад гэтага толькі болей заводзіліся. Раптам Сержуку ў вочы ўдарыла асьляпляльнае сьвятло. Ён зразумеў: аўтамабільныя фары. Сяржук кінуўся насустрач машыне. Яна спынілася.

— Хадзі, сюды, алкан, — пачуў Сяржук. Яму заламалі рукі ды кінулі ў машыну.

— На сягоньня трыццаць трэці, — сказаў малодшы сяржант.

— Там за мной беглі... з нажом, — спрабаваў патлумачыць Сяржук.

— Пасматры ты на сябе, п'яная сьвіньня. Выкачаўся весь, перагарам разіць на кілямэтар.

— Не, сапраўды, — зрабіў яшчэ адну спробу Сяржук, — там тры чалавекі. У іх нож. Яны беглі за мною.

— Ты замаўчыш кагда-нібудзь? — малодшы сяржант з развароту заехаў Сержуку ў сківіцу.

На гэтым іхняя размова скончылася.

Сяргей

— А вы не хацелі б, Сярожа, напісаць музыку да майго фільма? — запытаўся ў яго вядомы кінарэжысэр.

— Я б з задавальненьнем, але дагэтуль не было прапановаў.

— Дык вось я й прапаную. Давайце сустрэнемся заўтра на кінастудыі. Я вам пакажу пачатковы матэрыял, вып'ем каньячку, арганізуем мазгавы штурм. Дарэчы, што ў вас з кліпамі? Калі трэба, можам арганізаваць.

— Вось заўтра, пад час мазгавога штурму, і пагаворым пра гэта.

— Добра, Сярожа. Чакаю вас.

— Але вы карыстаецеся тут папулярнасьцю, — сказала Сяргею брунэтка, — вы, высьвятляецца, даволі вядомы чалавек.

— Не настолькі, як хацелася б, — сумленна адказаў Сяргей і адпіў глыток з высокае срэбнае чаркі.

— Я мяркую, у вас усё наперадзе, — абнадзеіла брунэтка.

СЯРЖУК

— Дзе работаеш-учысься?

— Я музыкант, — азваўся Сяржук.

— Я тожа на баяне іграю. Дзе работаеш? — настойваў капітан.

— Афіцыйна нідзе. Але...

— Так... Безработны. Ясна. Дакумэнты есьць?

Ва ўнутранай кішэні мусіць быць пашпарт. Але яго не было. Відаць, выпаў пад час аднаго са шматлікіх сержуковых падзеньняў.

— Згубіў, — ціха вымавіў Сяржук.

— Ясна, сказаў капітан. — Прыдзёцца табе да высьненія лічнасьці правесьці ўрэмя ў кампаніі сібе падобных.

Неўзабаве Сяржук апынуўся ў цеснай сыраватай камэры. Там знаходзіліся яшчэ чалавек зь 15. Перахоплівала дых ад нясьвежага, сьмярдзючага паветра.

— Ідзі сюды, новенькі, — пачуў Сяржук.

Яго клікаў пажылы кароткастрыжаны зэк. Сяржук падыйшоў.

— Што, цяжало дышыцца? — запытаў пажылы.

— Цяжкавата, — адказаў Сяржук.

— Вот, відзіш, дзірачка ў сьцяне. Есьлі будзет очань цяжало, падхадзі і дышы. Я разрашаю.

— Дзякую, — сказаў Сяржук.

— Не за шта. Я знаю, как цяжало ў первы раз. А ты ў первы раз, эта сразу відна.

СЯРГЕЙ

Шматлюднасьць пачала стамляць. За гэты вечар зь ім пазнаёмілася столькі людзей, што палову ён бы ўжо цяпер не пазнаў у твар. І гэта кепска, бо ўсе яны — людзі карысныя. Ад іх можа залежаць ягоная будучыня. Зрэшты, гледзячы па ўсім, гэтая імпрэза не апошняя ў ягоным жыцьці.

Ягоная сьветлавалосая знаёмая ажыўлена танчыла з мужчынам сярэдняга ўзросту. Другая знаёмая далёка ад Сяргея не адыходзіла, танчыла толькі зь ім, зазірала яму ў вочы, згаджалася з усім, што ён казаў.

Ну што ж, — падумаў Сяргей, — гэта ня самы горшы варыянт,

— Я крыху стаміўся ад гэтага гармідару, — сказаў ён брунэтцы. — Можа быць, зьехаць адсюль?

— Я даўно хацела гэта прапанаваць, — усьміхнулася яна. —Толькі не наважвалася.

— Куды мы можам паехаць?

— Я жыву тут недалёка. Пап'ем кавы, пагаворым.

— Тады ня будзем губляць час.

СЯРЖУК

Раптам ён заўважыў, што прыцягвае ўвагу высокага вязьня. Высокі сачыў за Сержуком вачыма й выстукваў нейкі рытм пальцамі на калене.

— Ідзі сюда, — сказаў ён Сержуку.

— Навошта?

— Ты што, плоха поняў? Есьлі старшы гаварыт, нада іцьці.

— Дзяйсцьвіцельна, он праў, — пацьвердзіў стары зэк, які прапанаваў Сержуку падыхаць у дзірачку. — Старшых нада слушацца.

Сяржук падыйшоў да высокага.

— Слышыш, — пачаў той, — а пачаму ў цябе сярожка ў вухе, а?

— Я музыкант, — ня вельмі ўпэўнена адказаў Сяржук. — Гэта мой сцэнічны імідж.

— Шчас я табе скажу, хто ты, — зароў высокі й схапіў Сержука за каўнер.

Сяржук выцяў нагою высокага акурат па носе. Пацекла юха. Высокі заскавытаў высокім голасам: Сматрыце, как аскарбляюць аўтарыцета? Саўсем закона што лі нет?!

Ён замахнуўся, але Сяржук зноўку пасьпеў ударыць першы. Удар прыйшоўся паддых. Высокі перагнуўся напалам і зваліўся на брудную халодную падлогу.

Тымчасам ззаду да Сержука падыйшоў маленькі непрыкметны шэранькі чалавечак. У ягонай руцэ бліснула сталь. Сяржук застагнаў, азірнуўся, трымаючыся рукою за бок. Шэранькі чалавечак усьміхнуўся яму.

— Няправільна ты зьдзелаў, што пабіў яго, — ціха, амаль шэптам прамовіў ён.

Сяржук павольна апусьціўся долу.

СЯРГЕЙ

Раніца. Шырокі ложак, памаранчавы сок, тэлевізар, пляскаты экран. Чарнявая сяброўка прынесла канапкі. Прыйшоў факс з Францыі: Празь месяц трэба выяжджаць. Плянуецца шэраг канцэртаў. Там зь вялікай цікаўнасьцю паставіліся да ягонае музыкі. Акрамя гэтага, здымаецца ягоны кліп. Пішацца музыка да фільма.

У тэлевізары — крымінальная хроніка. Просяць апазнаць чалавека. Твар, быццам бы, знаёмы, але ніяк не атрымліваецца ўспомніць, хто гэта. Думкі пераключаюцца на іншае (вельмі шмат штодзённых справаў, дзень расьпісаны, літаральна, па хвілінах).

***

Яны сустрэліся на эскалятары, у мэтро. Дакладней, на двух эскалятарах, якія рухаліся паралельна — адзін уніз, другі ўгару (у мэтрапалітэне так заўсёды прынята). Сяржук убачыў Сяргея, пачаў актыўна жэстыкуляваць, крычаць (каб прыцягнуць Сяргееву ўвагу). Гэта атрымалася. Праз хвіліну яны стаялі ля выхаду з мэтро й размаўлялі.

— Ну, як твае справы? — пытаўся Сяргей. — Шчыра кажучы, выглядаеш ты ня вельмі.

— Доўга хварэў, — ціха, нібыта гучна размаўляць яму цяжка, казаў Сяржук. — Толькі нядаўна выпісаўся. А ты як?

— А я толькі з Францыі. Граў там канцэрты. Вось праз два тыдні зноўку еду. Напісаў музыку да фільма. Зьняў кліп. Карацей, скардзіцца не выпадае.

— Ну што ж, рады за цябе, — нявесела ўсьміхнуўся Сяржук. —А, памятаеш, два месяцы таму мы вырашылі зрабіць транспартную вандроўку? Ну, як у дзяцінстве...

— Шчыра кажучы, цяжка прыгадваецца. За два месяцы столькі здарылася...

— Ну, ты тады шчэ абраў тралейбус 43.

— Не, не прыгадваю. Даруй, я вельмі перапрашаю, але мне трэба бегчы, ніяк нельга спазьніцца. Яшчэ сустрэнемся!

Сяргей пабег. Сяржук пастаяў крыху, а потым павольна, кульгаючы, пакрочыў назад, у мэтро.

Сяргей сядзеў у францускай амбасадзе, чакаў, пакуль вызваліцца аташэ па культуры й напружана думаў: як жа завуць гэтага змардаванага чалавека, які яму сёньня сустрэўся ў мэтро? Думка гэтая была надта навязьлівая, Сяргей нават пачаў злавацца. Але неўзабаве да яго выйшаў аташэ, Сяргей падзяжурнаму ўсьміхнуўся, і яны паглыбіліся ў абмеркаваньне культурных сувязяў паміж іхнымі краінамі. Болей пра змардаванага чалавека Сяргей не ўспамінаў і ніколі яго не сустракаў.

# Эліта Беларусі



*Сыны і пасынкі Беларусі / С.Барыс, С.Тарасаў, Г.Ланеўскі і інш.; Укладальнік Барыс С. — Менск: Полымя, 1996. — 416 с.: іл.*

Хоць гэтая кніга называецца "Сыны і пасынкі Беларусі", ёй больш пасуе назва "Беларусь — маці і мачаха". Бо ўсе пададзеныя там людзі — сапраўдныя і родныя сыны сваёй Радзімы-Беларусі, і толькі тая ў асобе сваіх кіраўнікоў ставілася да іх як да няродных. А яны — любілі яе, шмат ёй даравалі і паміралі за яе і з-за яе.

Да ўвагі чытача прапанаваныя 18 жыцьцярысаў тых людзей, якіх можна залічыць у гонар нацыі, яе несьмяротную эліту. Несьмяротную, як "Пагоня" на вокладцы кнігі. Выдаўцы зрабілі крок насустрач і "патрабаваньням" сёньняшняга дня — на адваротным баку вокладкі зьмясьцілі БССРаўскі сьцяг і герб. Нарысаў пра людзей, якім бы пасавала такая сымболіка, у кнізе ўсяго адзін, таму некаторых іншых укладальнік згадаў у прадмове: М.Гастэла, М.Казей, С.Грыцавец, А.Гаравец... Савецкія героі, подзьвіг якіх павінен быць зацьверджаны ў нейкім абкаме. Зусім нядаўна сьвет даведаўся, што не Гастэла, а яго баявы паплечнік Маслаў зьдзейсьніў гастэлаўскі подзьвіг. Хутка чарга дойдзе да Казея. Але і цяпер трэба прызнаць, што слова "герой" мае ў беларускай мове іранічнае адценьне. Гэтае савецкае слова так і ня стала беларускім. Наша ж старажытнае слова "багатыр" мы падаравалі палякам (у якіх зьявіўся "багатыр Савецкага Саюза"), а сабе нічога не пакінулі...

Асобы, пра якіх ідзе гаворка ў кнізе, — легендарныя (пра Езавітава проста так і напісана), а легенды ў гісторыі — рэч не бясспрэчная. Ці "матэрыялізуе" легенды гэтая кніга? Хутчэй, ствapae новыя. Вось, Сяргей Тарасаў параўноўвае акалічнасьці нараджэньня полацкага князя Ўсяслава Чарадзея з нараджэньнем Хрыста. Вітаўт Вялікі, здаецца, пераканаўча абвешчаны вялікім палітыкам. Застаецца растлумачыць, у чым яго вялікасьць. Бясспрэчна, у яго актыве перамога ў Грунвальдзкай бітве і стварэньне дзяржавы ад мора да мора. Больш за тое, у кнізе цытуецца адзін гісторык: "Лучыць і ўсьцяж лучыць — гэта яго мэта! Маскву зь Вільняй, Прагу з Кракавам хацеў ён спрагчы ў адно, палову Эўропы жадаў ён ажывіць адным духам, так, што з польска-літоўскай мела б паўстаць нейкая адна ўсеславянская унія".

Ці не нагадвае кагосьці той інтэгратар? "Ідэя Вітаўта жыве і сёньня", — робіць выснову аўтар. Жыве, толькі якая карысьць зь яе беларусам? На жаль, у зборніку не знайшлося месца для іншага князя — Альгерда, якога высока ставілі і маскоўскія летапісцы XIV ст. (хоць ён тройчы ваяваў Маскву), і дзеячы XIX ст. (Альгерду знайшлося ганаровае месца на помніку 1000-годзьдзя Расеі ў Вялікім Ноўгарадзе). Альгерд яшчэ не "асвоены" беларускай гістарычнай навукай, але калі гэта будзе зроблена, упэўнены, што "міт" пра Альгерда будзе больш жыватворным для Беларусі, чым "міт" пра Вітаўта.

Укладальнік зборніка імкнуўся вытрымаць пэўную раўнавагу паміж дзеячамі палітыкі і ўлюбёнцамі музаў. Некаторыя з выдатных сыноў Беларусі спалучалі абодва віды дзейнасьці. Ня можна сказаць, кім больш быў Вацлаў Ластоўскі — палітыкам ці пісьменьнікам. Ці не таму, што песьціць беларускую культуру —гэта й значыць — займацца палітыкай?

З тых 18 людзей, пра якіх чытач даведаецца з кнігі, дзевяць памерлі гвалтоўнай сьмерцю. Сярод іх адзіны, пра каго я дазнаўся ўпершыню — былы царскі генэрал Антон Станкевіч, які памёр за ўладу Саветаў у 1919 годзе. Калі б ён памёр за Беларусь, была б зразумелая яго прысутнасьць паміж Валерыем Ўрублеўскім і Вацлавам Ластоўскім. А так... Добрае слова пра Станкевіча сказаў на пахаваньні А.Мясьнікоў. Можа, гэтага дастаткова?

Ня толькі нарыс пра Станкевіча вылучаецца з агульнай купы жыцьцярысаў. Адметны тэкст і пра Кастуся Каліноўскага, але —іншай асаблівасьцю: ён адзіны ў кнізе прысьвечаны гісторыі каханьня. Было б цікава даведацца пра гэты бок жыцьця астатніх герояў зборніка. Тое, што яны вялікія дзеячы палітыкі і культуры, шчыра любілі сваю Радзіму — усім вядома, а іх зямное каханьне схаванае ад чытача. Праўда, гэта была б зусім іншая кніга.

**Валеры Пазьнякоў**

цялеснасьць. Чым глыбейшы ўзровень — тым мацнейшае рассычэньне. І паляцяць за фіялетавы небасхіл, нібы тыя сынтэтычныя жарптахі, нязьдзейсьненыя жаданьні.

2.

Пэрлы грукаюць па падлозе. Нехта ж рассыпае ў вечаровым пакоі пэрлы! Аднак падлога не псуецца, не дэфармуецца. Дый фарба колеру падгнілае вішні ня траціць свой колішні бляск. Надаецца магчымасьць прайсьціся басанож. Уражаньні вандруюць па лябірынтах напружанага цела. Элястычныя цяглiцы працінаюцца электрычнымі імпульсамі.

Ішоў Езус па Зямлі Галілейскай...

Ды не, зусім ня так, як пішуць у кнігах разумныя дзядзькі й цёткі, тлумачаць зашыфраваныя сымбалі, кранаюць сэрца манэрнаю памяркоўнасьцю.

Паголеныя й напарфумаваныя сучасныя фарызэі крочаць упэўнена па праспэктах, уздымаюцца па мармуровых лесьвіцах у свае ўтульныя габінэты. Гартаюць безьліч дзяржаўных папераў, купаюцца ў пажаўцелай макулятурнай масе. Патанаюць. Моцная кава й алькаголь, нібы выратавальныя колы, вызваляюць чыноўнікаў ад паперкавае сьмерці. Зь цягам часу твары тапельцаў-інтэлектуалаў зьліваюцца ў адзінае зелянкавае месіва.

Палі. Лясы. Краявіды...

Аднак экалягічныя фантазіі не прымаюцца на звышнавуковых нарадах у найвышэйшых інстанцыях. Вырашыць Матухна-Масква. Хоць праблема невырашальная. Нават, калі пэрлы катаюцца ў родным пакоі.

3.

Зімовы пэйзаж крыху гамуе разбуральныя працэсы, якія то ўзмацняюць, то прыпыняюць інтэнсыўнасьць сваіх непрыхаваных дзеяньняў. Як ні круці, але штодня магчымыя рэцыдывы разбурэньня. Як звонку, так і ўнутры.

Гэта адчувае маленькі хлопчык, які разгублена ўзіраецца ў твары асобных праходняў. У ягоных зіхоткіх зрэначках адлюстроўваюцца рознаколерныя курткі, шалікі, капелюшы, боты. Дзіця наркатызуецца гульнёю колераў і кшталтаў, дрэйфуе ў котлішчы гарадзкіх гукаў.

Нехта павіхнуўся каля дзіцяці. Зьнік у натоўпе, пакінуўшы кіслы пах піва і цыгарэтаў.

Малы схаваў свой ружовенькі носік у мехавы каўнерчык. Разьвярнуўся ды глянуў у вакно цукерні, дзе таўстая жанчына завычай гандлюе печывам ды іншымі слодычамі. А цукеркі, чэкалядкі, разматыя пернікі літаральна растуць, працінаюць шыбы, сьцены, дах ды ўздымаюцца ў сакавіцкае неба.

Самы час зьняць чорна-белую зімовую маску, апрануць весялейшую, аздобленую пырскамі кідкіх фарбаў.

Зеляніна. Жоўць. Лагодная чырвань...

Ды дзе ж там! Вакол ўсё клякоча, пульсуе, дыхае. Ажно не пасьпееш азірнуцца, як крочыць па самлелай ад водару кветак зямлі ладны юнак. Дорыць смарагдавыя думкі ды казачныя сны. Боскі травень спакушае, прапануе моцны каньяк, сьцьвярджае, што мы зь ім двайняты — адно цела і кроў.

# Вітальд Гамбровіч. Афарызмы

*"Найдзічэйшая думка, аднойчы агучаная, цывілізуецца хутчэй, як можна было ўявіць".*
Вітальд Гамбровіч (тэстамэнт)

*"Я быў — нічым, дык мог дазволіць сабе ўсё".*
Вітальд Гамбровіч (тамсама)

*Вітальд Гамбровіч ня быў афарыстам. Прынамсі, у тым значэньні, што Караль Іжыкоўскі ці Казімеж Пшэрва-Тэтмаер, якія выдавалі ўласныя зборы афарызмаў, ані ў тым, што Генрык Сянкевіч, які не адмаўляў сабе ў прыемнасьці пакінуць у рукапісах некалькі дзясяткаў сэнтэнцыяў. Гамбровіч, нягледзячы на бясспрэчнае пачуцьцё гумару, пазьбягаў сьвядомага пісаньня афарызмаў ці сэнтэнцыяў. Чаму? На гэтае пытаньне, цытуючы прыхільніцу творчасьці Тэадора Парніцкага, адказвае ўкладальнік кнігі "Вітальд Гамбровіч. Афарызмы, рэфлексіі, думкі і сэнтэнцыі" Яахім Гленск: "Ён занадта добры пісьменьнік, каб пісаць афарызмы".*

*У псыхіцы Гамбровіча дамінаваў жаночы элемэнт, і таму, відаць, неспадзеўна ў ягонай творчасьці сустракаюцца сынтэтычныя абагульненьні, якія, паводле навуковых сьцьверджаньняў, прэрагатыва мужчынаў. Толькі 1,7% афарызмаў належаць прадстаўнічкам прыгожай паловы чалавецтва. "У думках Гамбровіча, — працягвае Яахім Гленск, — тых афарызмах і рэфлексіях, вылузаных зь велізарнымі цяжкасьцямі з хуткацечнай плыні прозы, мы знаходзім довады вялікага гераізму ягонай натуры, сапраўднай мужчынскай рашучасьці і, апрача няспыннай гульні словам і думкаю, на лініі парадоксу і краю нонсэнсу, пасьлядоўнай працэдуры адказнасьці ня столькі, можа, за слова, колькі за думку..."*

***P.S.** З усіх твораў Вітальда Гамбровіча і з працаў пра яго выбрана каля 550 цытатаў. Спадзяюся, прыведзеныя ніжэй возьмуць увагу спадарства незалежна ад дамінанты мужчынскай ці жаночай — натуры і перавагі левага ці правага ў разьвіцьці мазгоў.*

**У**сё залежыць ад выкліканага эфэкту.

**У** слушнасьці нашых прэтэнзіяў мы пераконваемся толькі тады, калі пачынаем за іх змагацца.

**Н**а сябе немагчыма забыцца.

**А**дзіны прытулак чалавека, адзіная зброя і права —якасьці характару, а адзіным паказальнікам у жыцьці —маральнасьць.

**Ч**алавек сам сабе, а не сьляпыя й цёмныя флюіды, выкоўвае лёс, вызначае характар, сьвядомасьць, веру. Кожнае чалавечае жыцьцё, кожная нашая прыгода — крыху незразумелыя і таямнічыя. Абарочваемся ў сьвеце, які цалкам нявытлумачаны. Але той зразумеласьці, якая ёсьць, дастаткова для чалавека добрай волі.

**І**ндывід — гэта арэх, у такой ступені неразгрызны, што ніводзін тэарэтычны зуб ня справіцца.

**Я**, як асьпірын, які, калі верыць рэкляме, пазбаўляе празьмерных сутаргаў.

**Я** ёсьць, таму яшчэ больш існую.

**Б**ывае, зьдзіўляю сам сябе.

**А**соба больш функцыянальная за народ. Яна выпярэджвае народ.

**А**дводзячы вас за кулісы маёй натуры, я змушаю сябе адсоўвацца яшчэ глыбей.

**Н**авязацца людзям у якасьці асобы, каб пасьля ўсё жыцьцё служыць гэтаму.

**К**ожны спажывае сваё жыцьцё, як біфштэкс, на асобнай талерачцы, за асобным столікам.

**К**алі нейкая думка становіцца даміноўнай, пачынаюць множыцца факты, якія жывяць яе звонку, тады выглядае на тое, што вонкавая рэчаіснасьць пачала супрацоўнічаць з унутранай.

**Н**аймадэрны кірунак мысьленьня — той, які зноўку адкрые паасобнага чалавека.

**С**вабода! Для таго, каб быць свабодным, недастаткова гэтага хацець; трэба хацець быць свабодным не занадта. Ніводнае жаданьне, ніводная думка, разьвітая задалёка, ня здолее процістаяць экстрэмізмам.

**К**ожны з нас перад чарговым прыбрамкам высьлізгвае з жыцьця, і мільён дзьвярэй вядзе нас на бязьмежныя палі здрады.

**"Я"** — гэта не перашкода ў паразуменьні зь людзьмі, "я" — гэта іхнае жаданьне. Але рэч у тым, каб "я" не дастаўлялася як кантрабандавы тавар. Чаго ня зносіць "я"? Палавіністасьці, баязьлівасьці, сарамяжлівасьці.

**А**бсалютная немагчымасьць цэласнасьці характарызуе чалавечую душу.

**Ж**ахлівейшае за страх — Бясьсільле Страху.

**Т**ой, хто баіцца за сябе, заўсёды мае рацыю.

**Я**кая асалода: гаварыць не для каго-небудзь, а для сябе! Калі кожнае слова мацнее ў сабе, памнажае тваю ўнутраную сілу, вывальняе ад тысячаў палахлівых разьлікаў, калі прамаўляеш не як нявольнік эфэкту, а як чалавек свабодны.

**Н**езразумелаю пастановай Прыроды кожны, нават наймацнейшы чалавек мае на гэтым сьвеце прадвызначаную адну адзіную рэч, якая мацнейшая за яго, яна над ім, і яе немагчыма трываць. Адныя ня зносяць прымулы, хтосьці — печанёў, нехта пакрываецца нэрвовай высыпкай ад суніцаў.

**У** горад! Як мага хутчэй! У горад, дзе чалавек меншы, лепш распушчаны ў людзях і больш падобны да людзей!

**Б**ывае страшэнная лёгкасьць, а ў ёй — страшэнная цяжкасьць.

**Н**айтрагічная адзнака вялікіх трагедыяў у тым, што яны прыводзяць да малых трагедыяў — да нуды, манатоннасьці і нейкага дробнага і неразнастайнага выпрабаваньня глыбіні.

**М**роя пра шчасьце, пошук выгоды, якой няма, якой ніколі немагчыма дасягнуць — усё гэта дробнае і маладушнае. Жыцьцё —гэта вялікае змаганьне са складанасьцямі, якія ўсё аднаўляюцца ў новых паставах. Падобна да мужнага жаўнера, мы павінны перамагаць больш эфэктыўна. Чалавек мусіць нястомна спрабаваць атрымаць перамогу над рэчамі. Гэтае штодзённае змаганьне вымагае сапраўднай адвагі. У глыбіні душы я спартовец. Жыць —значыць змагацца. Нішто, абсалютна нішто не здабываецца раз і назаўжды. Пакуты — частка жыцьця. З гэтым трэба пагадзіцца. Пошук шчасьця і душэўнага камфорту — гэта жыцьцёвы тандэт. Трэба ўмець радавацца з драбязы і таму як мага больш укладаць сябе ў тое, што робіш.

**К**ожнае існаваньне — стыхійнае бедзтва.

**Н**ішто ўласнае ня можа чалавеку імпанаваць; калі ўсё ж імпануе нам нашая значэннасьць ці нашая мінуўшчына — гэта довад, што ў кроў яны не ўвайшлі.

**Н**емагчыма цэлы тыдзень быць нікчэмным, каб у нядзелю сьцьвердзіцца.

**А**х, адчуць свае межы! Абмежавацца! Мець абмежаванага Бога!

**Н**я буду вымяраць вышыню нашага ўзьлёту глыбінёй падзеньня.

**Я**кая ж розьніца паміж славай, за якую плаціш, і славай, на якой зарабляеш!

**З**а права на годнасьць плаціш пакорай.

**Н**яма такога душэўнага стану, які б, даведзены да крайнасьці і лягічнага канца, ня быў варты павагі. Можа быць, сіла ў слабасьці, рашучасьць у ваганьні, пасьлядоўнасьць у непасьлядоўнасьці, а таксама вялікае ў малым. Сьмелая баязьлівасьць, мяккасьць, вострая, як сталь, уцёкі, як атака.

**Д**ля Мужчыны няма найбольшага скарбу, як Незаплямлены Гонар ягонага Імя.

**Ч**алавек, зьнішчаны гісторыяй, можа з часам стаць творцам гісторыі... ўласнай.

**Т**ое было ўжо неактуальным, але ў якасьці неактуальнага было актуальным.

**С**ьвет існуе толькі дзякуючы таму, што заўсёды запозна адступаць.

**І**нтэлігентны чалавек упарты і, згодна з дыялектычнай прыродай розуму, заўсёды шукае адваротны бок мэдаля.

**І** што з таго, што кожны, беручы паасобку, цалкам цьвярозы, разважлівы, ураўнаважаны, калі ўсе мы разам — вар'ят.

**Я** нармальны, але не магу быць нармальным, калі нехта ненармальны.

**О**, асалода нармальных дачыненьняў пасьля ненармальных.

**Н**а мой погляд, няма горшага за трактаваньне паводле прынцыпу агульнапрынятага рэчаў агульнанепрынятых.

**З**а дзіўацтвы плаціш, на гэта няма тарыфу.

**Б**ываюць чалавечыя ўчынкі, на першы пагляд, бессэнсоўныя, якія, аднак, патрэбныя чалавеку, бо пэўным чынам акрэсьліваюць яго —так, каб даць найпрасьцейшы прыклад. Нехта гатовы ўчыніць зусім непатрэбнае шаленства толькі для таго, каб не адчуць сябе баязьліўцам. А каму больш, як моладзі, патрэбнае такое фармаваньне?

**Н**едарэчнасьць — гэта кій з двума канцамі.

**Ц**ікава: бяздумнасьць і абыякавасьць — гэта своеасаблівыя развагі і пачуцьці.

**М**не думаецца, што чым большая фізычная бясьсільнасьць, тым сьмялейшай павінна быць думка.

**Д**ачыненьні паміж людзьмі пабудаваныя з напружаньня.

**Ч**аста было б лепш, каб Знаёмыя пераўтварыліся ў Незнаёмых.

**С**энс нечага жыцьця, нечая дзейнасьць акрэсьліваюцца гэтым чалавекам і іншымі. Ня толькі я надаю сабе сэнс. Таксама іншыя яго надаюць мне. Ад сутыкненьня гэтых інтэрпрэтацыяў паўстае нейкі трэці сэнс, які мяне вызначае.

**У**дваіх зробіцца ўсё.

**К**ожны мае такую істоту, якая даводзіць яго да белай гарачкі.

**А**пошняя інстанцыя для чалавека — чалавек, але ж ніводная каштоўнасьць не абсалютная.

**К**ожны сабе крышачку дазваляе і затым мусіць дазваляць.

**П**рацэсы, якія мы перажываем разам, супольна з кімсьці і якія, відавочна, ня страшныя, становяцца невыноснымі без партнэра. Самотнасьць — прадугледжвае.

**Н**е. Ніхто ні з кім ня можа проста гаварыць. Дарэмна вырываесься зь сябе да мяне, а я да цябе. Дарма я хацеў бы выдзерціся зь сябе да вас. Так, я ўвязьнены...

**Ш**пілька вымагае падушкі.

**Т**ак, трэба прыстасоўвацца да агульнай атмасфэры! Няхай кожны да кожнага прыстасоўваецца! Тады выбухне канцэрт!

**У** культуры ня толькі ніжэйшы павінен быць створаны вышэйшым, але й наадварот — вышэйшы ніжэйшым.

**У** Польшчы вышэйшасьць і ніжэйшасьць няздатныя на супольнасьць, а толькі ўзаемна грызуцца ў фарсе.

**Н**а вяршынях нічога няма: сьнег, лёд і скала, — затое шмат ёсьць чаго пабачыць ва ўласным гародчыку.

**К**олькі ж трэба папакутаваць, каб дайсьці да таго ж самага, але на больш высокім узроўні разьвіцьця!

**Н**а жаль! Тым, хто мае права на перавагу, ня дадзенае права на роўнасьць.

**Д**рама сапраўднай вышэйшасьці ў тым, што яна ні за што ня хоча панізіцца, што будзе змагацца да апошняга за свой ровень, бо ня ўмее, ня можа адмовіцца ад сябе — і таму вышэйшасьць сапраўдная заўсёды творчая, гэта значыць, пераўтварае іншае на свой капыл.

**В**ідавочна, каб спазнаць сваю лепшасьць, трэба знайсьці сабе кагосьці вельмі кепскага.

**Ч**алавецтва ўсё мяняе на грошы і выдае рэшту.

**Б**о "нішто" — гэта нешта тое, што робіцца цягам усяго жыцьця. Чалавечак стаіць, сядзіць, гаворыць, піша... і нічога. Чалавечак куггляе, прадае, бярэ шлюб, не бярэ — і нічога. Чалавек сядзенцыюм на пенцыюм і нічога. Газаваная вада.

**К**аб дзяцінасьць стала дазволенай, трэба даросласьць давесьці да банкруцтва.

**С**ьцеражыцеся нясталасьці, схаванай у сэрцы вашай даросласьці.

**Т**аму, каго бесьперастанна перасьледуе смаркач, нельга зьяўляцца на людзях без смаркача.

**У**нівэрсальны стыль — гэта той, які здолее зь любасьцю ахапіць недаразьвітасьць.

**М**аладосьць у глыбіні душы ня любіць уласнай прыгажосьці і бароніцца ад яе — дык вось гэтае нежаданьне прыгажосьці ў маладосьці прыгожае ад самой прыгажосьці, і ў гэтым адзіная магчымасьць пераадоленьня адлегласьці, якая забівае.

**Д**зяўчына — гэта твор, які нібыта практыкуе маладосьць, а насамрэч служыць для ліквідацыі маладосьці.

**Х**іба толькі грэх, толькі бруд глыбокі? Ці ж глыбіня сядзіць за брудным пазногцем? Гора таму, хто пакіне свой бруд для чужой чысьціні, бруд заўсёды свой, чысьціня заўсёды чужая.

**Н**япроста ўратаваць істоту, для якой права на існаваньне —спакушаць.

**М**анархія больш дзявоцкая, як рэспубліка, мае больш таямніцы, як языкатыя чальцы парлямэнту. Манарх — узвышаны, бязгрэшны, бездакорны, безадмоўны, як дзяўчына, у драбнейшых парамэтрах і генэрал — дзяўчына.

**Д**зяўчынаў няма, ёсьць толькі дзяўчаты.

**О**, дзяўчына, гэтае ёмішча ганьбы, замкнёнае на ключ прыгажосьцю.

**С**учасная галодная дзяўчына вышэйшая клясай за сучасную дзяўчыну сытую.

**Н**іхто так ня ўцягвае ў маладосьць, як сучасная пэнсіянэрка.

**Р**ызыка падобная да дзяўчатаў, тых дзяўчатаў у змроку, якія толькі ў змроку могуць паказаць тое, што маюць.

**С**тарэючы, чалавек становіцца суб'ектам, а перастае быць аб'ектам. Праз гэта сьвет робіцца значна цікавейшым. Толькі стаўшы суб'ектам, жанчына пачынае жыць па-сапраўднаму, можа трываць старэньне. Не заўважае стольківх цікавых рэчаў, калі думае толькі пра тое, каб падабацца. Іншыя могуць табе падабацца, гэта нешта іншае.

**Н**ас засмучае не павольнае паміраньне, а хутчэй тое, што вабнасьць жыцьця становіцца недаступнай.

**Ч**алавек баіцца ня сьмерці, а пакутаў.

**Ж**анчына! Ты ўвасабленьне антыпаэзіі!

**Ж**анчына — гэта ключ да мужчыны.

**Ж**аноцкасьць, скажу я вам, ніколі не падманвае.

**Ж**анчыны, можа, і ня любяць крайнасьцяў у вонкавым жыцьці, але ўнутры кожную сытуацыю здольныя вычарпаць да дна, калі захочуць.

**Ж**анчына! Калі б ты ведала, да якіх пачварнасьцяў даводзіш, расплादняючыся, ты была б больш асьцярожная ў ложку.

**Н**ічога ня выйдзе з амураў з апірышчам на містыфікацыю.

**К**аханьне — гэта зялёны мост над блакітным прадоньнем. А чым ёсьць жыцьцё? Жыцьцё — гэта блакітны мост над зялёным прадоньнем.

**П**адстава шлюбу — ані каханьне, ані задавальненьне, ані паразуменьне душаў, але штодзённае паразуменьне, якое вымагае перадусім спакою, ветлівасьці, добрага настрою. І на гэтай падставе два быцьці збліжаюцца, перасякаюцца і становяцца цікавымі адно аднаму.

**М**ужчына не выносіць мужчыны. Няма больш брыдкага для мужчыны, як іншы мужчына — гаворка, ясная рэч, пра мужчынаў у сталым веку, з выпісанай на твары гісторыяй.

**М**ужчына можа быць прыймальны для мужчыны толькі як адрачэньне, калі адракаецца ад сябе ў імя чагосьці: гонару, цноты, народу, вайны. Але мужчына толькі як мужчына — якая брыдота.

**Ц**і ж гомасэксуалізм, адвечны, пашыраны, які адраджаецца ўвесь час, — гэта адзінае адхіленьне? Ці, хутчэй, адхіленьне становіцца такім паўсюдным і няспынна прысутным таму, што вырастае на грунце праўдзівага зачараваньня? Ці ня ёсьць так, што мужчына, паланёны маладосьцю, назаўсёды зачараваны хлопцам і яму адданы, жадае схавацца ў абдымках жанчыны, якая для яго тут у нейкай ступені — "дазволены хлопец"? У гэтай канстатацыі і перабольшаньне, і частачка праўды.

**Н**ішто так ня ўводзіць у зман, як пачуцьці.

**Ц**ела забівае цела, цела ў цела забірае моц.

**Р**озьніца паміж палякам і французам у тым, што адзін кахае жанчыну разьдзетую, а другі голую.

**К**алі мы брыдкавата пазіраем на прыгажосьць, нешта з нашага пагляду асядае на прыгажосьці.

**Б**рыдкія жанчыны часам больш западаюць у галаву, чымся прыгожыя, калі да іх не падыходзіць занадта блізка.

**П**рыгажосьць мае свае таямніцы. Шмат ёсьць прыгожых мэлёдыяў, але толькі некаторыя зь іх, як рука, якая душыць.

**Ш**то там вайна, паморак і гэтак далей супраць звычайнай, невялікай, але скрытай заганы, інакш кажучы, дэфэкту.

**Г**рэх адваротна прапарцыйны колькасьці людзей, якія яму аддаюцца.

**Д**абрадзейнасьць не ва ўтойваньні грахоў, але ў іх пераадоленьні, праўдзівая дабрадзейнасьць ня толькі не баіцца граху, але шукае яго — калі ён як права на яе існаваньне.

**Я**кая ж багатая і разнастайная чалавечая душа! Адныя будуюць сваю маральнасьць на высакароднасьці, другія — на дабрыні сэрца...

**Ч**аму пры чытаньні маралістаў заўсёды прыходзіць думка, што яны ўцякаюць ад чалавека? Бясьсільным, абстрактным і тэарэтычным падаецца мне мараліст — нібыта сапраўднае нашае існаваньне адбываецца недзе па-за ім.

**В**ера — вялікая містэрыя. Сьляпая вера. Бязбожнік — як публічная жанчына, да якой кожны мае доступ.

**К**алі пакуты непазбыўныя, то няхай жа, прынамсі, чалавек надасьць людзкі сэнс сваім пакутам.

**Я** веру ў ачышчальную моц рэчаіснасьці.

**У**ся інтэлектуальная дыялектыка нашых часоў скажоная, бо ніхто ўжо не ўсьведамляе сабе важнасьці болю. Боль — факт галоўны, фундамэнтальны.

**Т**ак, Боль стварае. Боль адзіны здатны паяднаць, праз час і прастору, гэта Боль можа прывесьці пакаленьні да адной роўніцы.

**М**іт абсалютнага Бога мог узьнікнуць, бо палягчаў чалавеку адкрыцьцё іншага чалавека, набліжэньне да яго, яднаньне.

**Н**еабавязкова трэба быць богам, каб мець пасьлядоўнікаў.

**Б**ог стаў пісталетам, зь якога мы прагнем застрэліць Маркса. Калі б я быў Марксам, быў бы горды, але калі б быў Богам, у якасьці абсалюту пачуваўся б ніякавата.

**П**екла — рэч перадусім мэтафізычная. Гаворачы пра пекла, трэба падбіраць словы неаднназначныя, каб прысутнічаў элемэнт Нявыказанага.

**Ф**ормы пакутуюць і спусташаюцца. Форма мае д'ябальскую схільнасьць да пераходу ад простай да больш складанай, ніколі ня рушыць у адваротным кірунку.

**К**алі пазбавіліся бэстыі Формы, цяпер трэба ўзяць яе за рогі.

**М**не не патрэбныя чужыя цырымоніі. Я ствараю свае цырымоніі.

**В**ойны можна ацэньваць як канфлікт формаў.

**С**ловы — гэта ня факт.

**К**алі чалавечыя справы ў словах не зьмяшчаюцца, то гаворыць рука.

**П**авінны быць дзьве асобныя мовы: адна для тых, у каго болей жыцьця, другая для тых, у каго менее.

**Ж**ыцьцё прабягае праз даты, як вада праз пальцы.

**Т**ое, што немагчыма пасунуць, трэба пераскочыць.

**І**снаваньне, як рака, калі трапіць на перашкоды, адразу пачынае шукаць іншыя шляхі і прабягае, калі ж яму ўдаецца, адкрывае для сябе новыя вусьці ў кірунках, якія яму нат ня сьніліся.

**І**дэя, адарваная ад чалавека, не існуе напоўніцу. Няма неўцелаўлёных ідэяў. Няма слова, якое б не было целам.

**Я** на баку пралетарыяту і толькі таму вораг камунізму. Кажу гэта шчыра і вельмі сур'ёзна.

**С**апраўдны жах жыцьця адкрываецца не таму, хто яго шукае, за ім гоніцца, а хутчэй таму, хто абараняецца ад яго і спазнае яго насуперак волі. Чорнае перастае быць чорным, калі бачыцца праз чорныя акуляры.

**Т**урма — не найгоршае месца для душы, якая становіцца пругкай у няволі. Часам так лёгка распусьціцца ў бязмежжы свабоды — як кавалку цукру, які з купкі зваліўся ў акіян.

**З**аўсёды нехта некага дзесьці калісьці...

**Р**эвалюцыі, войны, катаклізмы — што значыць гэтая пена ў параўнаньні з фундамэнтальнай пагрозай існаваньня? Кажаце, што дагэтуль нічога падобнага не было? Запомніце, у найбліжэйшым шпіталі чыніцца ня меншая жорсткасьць.

**М**астацтва немагчыма дапоўніць (што да чалавека).

**М**астацтва — гэта факт, а не камэнтар да факту.

**У** гісторыі трэба сьцьвердзіцца, каб застацца.

*Прадмова і пераклад з польскай*
**Вольгт Караткевіч**

